B 20 149 D

# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland")
(8) München 19. Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана аднаго нумару: Нямеччына** й іншыя эўрапейскія краіны — 50 фэн.; **ЗША** й **Канада** — 30 сант.; **Ангельшчына** — 1,5 шыл.; **Аўстралія** — 2 шыл **Перасылка лётніцкай поштай у ЗША й Канаду каштуе падвойна, у Аўстралію й краіны Паўднёвай Амэрыкі — патройна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna",
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ЦАНА 50 Н. ФЭН. — PREIS 50 Pf.

ERSCHEINT VIERTELJÄHRLICH DREI MAL

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND"

№ 1 (634) | Сакавік (März) 1966 | Год выданьня 20 (20. Jahrgang)

# ЗВАРОТ
## Прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка

*Дарагія Суродзічы!*

Адзначаем 48-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. 48 год таму Рада Беларускай Народнай Рэспублікі на начным паседжаньні з 24-га на 25-га сакавіка 1918 году прыняла пастанову й абвесьціла цэламу сьвету, што ад гэтага часу Беларусь зьяўляецца вольнай і незалежнай народнай рэспублікай.

Гэты вялікі й радасны момант у нашай гісторыі называем яшчэ днём аднаўленьня беларускай дзяржаўнасьці. Робім гэта таму, каб, папершае, ушанаваць памяць нашых продкаў, якія на працягу амаль тысячы гадоў гераічна абаранялі сваю дзяржаву, ахвярна пралівалі кроў у вабароне ейных межаў, а, падругое, каб задэманстраваць перад усім сьветам, што Акт 25-га Сакавіка не зьяўляецца нейкім наватворам нейкага невядомага дагэтуль народу, як нас часам намагаюцца прадставіць нашыя няпрыяцелі, а што Акт гэты ёсьць толькі натуральным вынікам адвечна жывучае волі Беларускага Народу, менавіта, як народу гістарычна дзяржаўнага.

Ня будзе таму лішнім падкрэсьліць, што на працягу ўсяго адраджэнча-вызвольнага пэрыяду змаганьне нашага народу працякала й працякае па гэтых дзьвюх лініях:

1. За зварот раскрадзенае нашае мінуўшчыны,
2. За аднаўленьне сувэрэннасьці й незалежнасьці на будучыню.

Выглядае, быццам байранаўскі пастулят — «Прарок будучыні — гэта мінулае» — быў успрыйняты і намі і нашымі ворагамі калі не як закон, то прынамся як неаспрэчнае гістарычна-сацыялягічнае правіла.

На шляху гэтага змаганьня, нашай зброяй былі арсэналы нявычэрпных дакумантальных багацьцяў пра нашае слаўнае дзяржаўна-палітычнае й культурнае мінулае. Таму мы й аперліся на дэвіз: Праўда пераможа!

Прывілеем-жа нашых ворагаў было ўладаньне нашай тэрыторыяй з усёй ейнай рухомай і нярухомай маемасьцяй. Іхным дэвізам стала ня сіла права, а права сілы.

З разьюшаным фанатызмам працягам 250 год у Смаленшчыне, Пскоўшчыне; працягам 135 год у Магілеўшчыне, Віцебшчыне; 124 гады ў Меншчыне; 120 год у Горадзеншчыне, Віленшчыне вынішчаліся нашыя нацыянальна-культурныя матарыяльныя й духовыя вартасьці.

Гаспадарча-ж край наш выпустошваўся, бо прызначаны быў царскімі стратэгамі на ваенны пляцдарм — дзеля «абароны» ад Захаду — свае разбурхлае ўжо тады эўра-азіяцкае імпэрыі.

Праз сотню год такога «гаспадараньня» Масквы, аблічча Беларусі было радыкальна зьмена. Ствараласся ўражаньне, што па краі пранеслася страшэнная навальніца, якісь дзікі віхор. Стэрарызаваны народ стуліўся ў сваіх убогіх хацінах, апусьціў схудалыя рукі... У канцы XIX й пачатку XX стагодзьдзяў Беларусь запраўды адпавядала ўсеагульнай думцы, якая характарызавала яе як найбольш адсталую правінцыю расейскай імпэрыі.

У апраўданьне гэтага, царскія «навукоўцы» пашыралі тэорыйкі як сярод самога беларускага народу, так і ў шырокім сьвеце аб прыроднай мізэрнасьці Беларускай Зямлі.

А зь гістарыяграфіі расейскіх «вучоных» аб нашым мінулым выглядала, што ўсё сучаснае людзка-жывое на нашай тэрыторыі ня мае нічога супольнага з тымі пакаленьнямі, што тварылі даўгімі стагодзьдзямі слаўнае Вялікае Княства Літоўскае; што ранейшы гераічны народ дзесьці бясьследна зьнік, перадаўшы ў спадчыну сучасным жыхаром Беларусі (якія няведама скуль узяліся) адно толькі сваю мову, а права на дзяржаўна-гістарычную спадчыну перадаў вылучна жыхаром пары паветаў, якія час-ад-часу ўваходзілі ў склад гэтага Вялікага Княства.

Піянэраў нашага адраджэнча-вызвольнага руху адылі не лякала ўсё гэта. Ворагам нашым Купала адказваў:

> «Напасьцяй, лаянкай напраснай
> грудзей ня варта мазаліць —
> Не пагасіць вам праўды яснай:
> Жыў Беларус і будзе жыць!»

І гэтая жыцьцяздольнасьць Беларускага Народу, ягоныя няўміручыя імкненьні да нацыянальна-гаспадарчае й палітычнае незалежнасьці былі найяскравей прадэманстраваныя на Ўсебеларускім Зьезьдзе ў Менску ў сьнежані 1917 году.

Зьезд, што пазьней назваўся Першым Усебеларускім Кангрэсам, быў запраўды першым ня толькі ў сэньсе часу й рэпрэзэнтатыўнасьці сярод іншых кангрэсаў на тэрыторыі ўсяе тагачаснае расейскае імпэрыі, бо калі параўнаць яго хоць-бы зь зьездам г. зв. ўсерасейскага «Учредітельного собранія», якое разагналі пара ўзброеных вартавых, да таго вартавых самога «Учредітельного собранія», дык Ўсебеларускі Кангрэс бальшавіком *разагнаць не ўдалося.* Пад націскам рэгулярных бальшавіцкіх вайсковых аддзелаў з панцырамі Кангрэс быў толькі *выгнаны* з аднаго будынку (г. зв. Шляхецкага дому). Кангрэс перабраўся ў другі будынак, чыгуначнае дэпо, дзе й давёў да канца сваю працу пад абаронай беларускіх чыгуначнікаў.

Ёсьць праўдай, што затым прэзыдыюм Кангрэсу (пазьней названы Радай Рэспублікі) і Першы Ўрад (Першы Сакратарыят БНР) быў загнаны бальшавіцкімі акупантамі ў падпольле, але бяспрэчнай праўдай зьяўляецца й тое, што неўзабаве бальшавікі ўцяклі зь Менску аж да Бярэзіны ад зарганізаванага ўрадам БНР збройнага паўстаньня.

Праўдай сёьць і тое, што, заняўшы незадоўга Менск, кайзараўскія акупанты параліжавалі дзейнасьць ўраду БНР, але ёсьць таксама незапярэчнай праўдай, што дарогу Немцам да Менску адчыніў Ленін з Троцкім ведамым Брэст-Літоўскім трактатам і што на аснове адпаведнай кляўзулі гэтага трактату кайзэраўская Нямеччына адмаўлялася прызнаць урад БНР «дэ юрэ».

Бальшавіцкія заправілы таго часу, пераканаўшыся, што ўсталявацца ў Беларусі адно сілай зброі будзе цяжка й небясьпечна для будучыні, яны адначасова з збройным наступам на беларускія землі кідаліся на розныя падступныя хітрыкі.

Напаўшы збройна на ўсенародны Беларускі Кангрэс 1917 году, бальшавікі абвесьцілі яго «зьездам памешчыкаў і капіталістых», але пабачыўшы, што ўрад БНР ужо ў пачатку 1919 году меў больш за 10 акрэдытаваных рознымі дзяржавамі сваіх пасольстваў і консулятаў, яны абвяшчаюць прызнаньне незалежнасьці Беларусі ды запрашаюць на мірныя перамовы ў Маскву прадстаўнікоў ураду БНР.

Вядучы-ж перамовы ў Маскве зь Беларускай Мірнай Місіяй і пагаджаючыся з дамаганьнямі ўраду БНР аб незалежнасьці Беларусі ў ейных этнаграфічных межах, бальшавікі у гэты-ж самы момант твораць з 17-ці асобаў, зь якіх тры чверці былі Расейцамі, паслухмяны сабе ўрад, намінальна на чале зь Беларусам Зьмітром Жылуновічам. Захапіўшы незадоўга Менск, яны абвяшчаюць Раду і Ўрад БНР «паза законам».

Ува ўсім сваім далейшым змаганьні супраць нас — аж да сяньня — усе маніпуляцыі, усе манэўры бальшавікоў, чым далей, тым больш удасканальваліся ў цынізьме, брутальнасьці й пэрфіднасьці.

Каб не выглядала банальным пералічэньне намі самымі ўсіх бальшавіцкіх злачынстваў, падамо тут даслоўна некалькіх асноўных фразаў Мікіты Хрушчова на XXII партыйным зьезьдзе, які сам схарактарызаваў савецкі рэжым, практыку камуністычнай партыі за чверць стагодзьдзя. Вось яны, гэтыя жудасныя словы Хрушчова:

Злоўжываньне ўладай... Брутальны гвалт... Фізычныя тартуры для вымушаных паказаньняў... гвалт адміністрацыяй... гвалт над масамі... сьмяротныя кары бяз сьледзтва й суду... крыклівы зьдзек... барбарскія тартуры... вар'яцкія абвінавачаньні... здабываньне жаданых прызнаньняў нялюдзка жорсткімі, доўгімі, страшнымі тартурамі... нязьлічоныя страты кадраў у выніку масавых рэпрэсіяў... высяленьні цэлых народаў...

Гэта запраўды жудасная споведзь не аднаго Хрушчова, Дарагія Суродзічы, а цэлага XXII зьезду камуністычна-бальшавіцкай партыі СССР, якая працягам чвэрці стагодзьдзя суправаджала воплескамі ажыцьцяўленьне «геніяльнай» палітыкі свайго «геніяльнага» генэральнага сакратара ды змушала да такіх-жа воплескаў і ўсе нешчасьлівыя народы, у тым ліку й наш Беларускі Народ.

Камэнтар да ўсяго гэтага напрошваецца толькі адзін, Дарагія Суродзічы: *Вышэй сьцяг БНР!* Вораг наш, тыран наш у агоніі! Ён прызнаецца, хоць пакуль-што поў-публічна, на сваім поў-сакрэтным партыйным зборышчы, — прызнаецца да ўсяго таго сягоньня, у чым Рада БНР няўпынна працягам апошняга паўстагодзьдзя абвіначвала яго перад усім цывілізаваным сьветам і дамагалася суду, кары гэтым злачынцам.

Мы перакананыя, што бясконца гэткая разбойніцкая ўлада трываць ня можа, бо гэта супраць усякай лёгікі гісторыі. Павінен хутка наступіць той момант, калі творцы гэтых жудасьцяў павінны будуць выспаведацца не на сваіх закрытых зьездах, а публічна й паасобна перад кожным сувэрэнным народам, бо-ж іхныя злачынствы таксама дзе ў чым розьняцца ў дачыненьні да кожнага паасобнага народу.

На працягу двух апошніх год на загад Крамля партыя заварушылася ў гарачкавай падрыхтоўцы да сьвяткаваньня 50-годзьдзя «вялікага каст-

**(Заканчэньне на 2-ой бач.)**

***Усіх нашых чытачоў і супрацоўнікаў***
***вітаем***
***з 28-ымі ўгодкамі Акту 25-га Сакавіка***
***і***
***з Вялікоднымі Сьвятамі***

***Рэдакцыя***

# Нязвычайныя адкрыцьці

У сваіх артыкулах «На імя Леніна» (**Полымя**, 4, 1965, бб. 97-109) і «Першы беларускі ўрад» (**Полымя**, 1, 1966, бб. 132-141) беларускі савецкі гісторык Вадзім Круталевіч зрабіў запраўды нязвычайныя й крыху дзіўныя адкрыцьці. Паймення, пазнаёміўшыся з архіўнымі матарыяламі, ён прыходзіць да высраву, што гісторыя ўтварэньня першае БССР і ейнага далейшага лёсу выглядала зусім ня так, як яна праз доўгія гады паказвалася ў савецкай гістарыяграфіі. Між іншым, ён зазначае, што «доўгі час вучоныя былі пазбаўленыя магчымасьці пісаць пра дзяржаўны орган, на чале якога стаяў Зм. Ф. Жылуновіч. Іншы раз даходзіла да абсурду: насуперак агульнавядомым фактам, старшынёй Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўраду Беларусі называлі Мясьнікова». І далей: «Прадстаўнікоў Белнацкому і Беларускіх камуністычных сэкцый Зм. Ф. Жылуновіча, В. І. Лагуна і іншых неабгрунтавана абвінавачвалі ў тым, што яны нібыта спрабавалі сарваць абвяшчэньне Беларускай Савецкай Рэспублікі, хацелі адарваць Беларусь ад Расеі, ператварыць Беларусь у калонію імперыялізму або аддаць яе пад пратэктарат буржуазна-памешчыцкай Польшчы».

Запраўды й «насуперак агульнавядомым фактам» гэтая гісторыя першае БССР выкрыўлялася ў самы няверагодны спосаб. Напрыкал, савецкая гістарыяграфія часамі абмяжоўвалася толькі голым напамінаў пра факт абвешчаньня БССР 1 студзеня 1919 году. Як яна разьвівалася, хто яе ўзначальваў, якія яна мела правы й тэрыторыю й як дайшло да другое БССР — заставалася цёмнай ноччу. Калі-ж часамі трэба было сказаць больш канкрэтнага, дык у гэтым выпадку розныя махінацыі Масквы, як, напрыклад, тэрытарыяльнае абрэзаньне першае БССР і наагул ейная ліквідацыя, выстаўляліся «жаданьнем» і «воляй» беларускага народу. Дарэчы, пра тэрытарыяльнае абрэзаньне першае БССР найменш было гутаркі, а вядомая Літ-Бел і другая БССР фігуравалі як простыя спадкаемцы гэтае першае БССР. З. Жылуновіч і А. Чарвякоў успаміналіся даволі рэдка й пераважна ў зносках і ўспаміналіся як беларускія «буржуазныя нацыяналістыя», што імкнуліся пашкодзіць «беларускай справе» Леніна й Сталіна.

Каб ня быць галаслоўным, зьвернемся хоць-бы да аднаго з апошніх аўтарытэтных выданьняў Акадэміі навук БССР — да працы дырэктара Інстытуту гісторыі гэтае акадэміі Н. Каменскай «Белорусский народ в борьбе за советскую власть (1919-1920 гг.)», выдадзенай у Менску ў 1963 годзе. Выкладзеная ў гэтай працы (бб. 18-13) схэма гісторыі першае БССР выглядае наступна: Клапоцячыся пра гістарычны лёс беларускага народу, у канцы 1918 году Ленін прыняў пастанову аб утварэньні БССР і дзеля гэтага загадаў склікаць адмысловы зьезд у Смаленску. Маніфэстам зь 1 студзеня 1919 году тут было апавешчана пра ўтварэньне «суверенного Белорускаго государства» й выбраны часовы ўрад, у які ўвайшлі «Д. Ф. Жилунович, А. Ф. Мясников, А. Г. Червяков и другие». Заканадаўча незалежнасьць БССР была аформлена на «I Всебелорусском Сьезде Советов», што адбыўся 2-3 лютага таго-ж 1919 году. На гэтым-жа зьезьдзе Я. Сьвярдлоў апавесьціў «постановление Всероссийского Центрального Исполнительного Коитета о признании независимости» БССР. «Белорусский народ, — піша далей Н. Каменская, — встретил образование Белорусской Советской Социялистической Республики с большим подьемом. На многочисленных митингах и собраниях трудящиеся города и деревни говорили о своей готовности до последней капли крови защищать Белорусскую Советскую Республику от посягательств внутренних и внешних врагов». Як-бы нічога не здарылася, крыху далей яна канстатуе, што пры ўдзеле таго-ж Я. Сьвярдлова й на тым-жа І зьезьдзе Саветаў, плюс на паседжаньні ЦБ КП(б)Б, была прынятая пастанова аб зьліцьці БССР зь Літоўскай ССР, што «от имени ВЦИК Я. М. Свердлов привествовал стремление к обьединению трудяхщихся Белоруссии и Литвы», што гэтую пастанову, г. зн. акт ліквідацыі «сувэрэннай» БССР, зноў-жа «вітаў» беларускі народ.

Н. Каменская, не ўспамінае, на якой тэрыторыі было апавешчана ўтварэньне першае БССР. Яна таксама ня прыгадвае пра той факт, што яшчэ ў сярэдзіне студзеня (16 ст.) 1919 году Масква прыняла пастанову пра абмежаваньне БССР толькі да дзьвух губэрняў — Менскае й Горадзенскае (у канцы студзеня на аснове апошняе пастановы з БССР былі выключаныя Віцебская, Смаленская й Магілёўская губэрні й некаторыя паветы Чарнігаўскай і Віленскай губэрняў). Не ўспамінае яна й пра той факт, што на гэты «I Всебелорусский сьезд Советов» Я. Сьвярдлоў зьявіўся з гатовай пастановай Масквы, якая наагул ліквідавала першую БССР і дзьве беларускія губэрні — Менскую й Горадзенскую — ўключала ў Літ-Бел.

Аднак-жа, і бяз гэтых апошніх зусім немалаважных дапаўненьняў схэма Н. Каменскай выступае супярэчлівай і проста сьмехатворнай. Больш таго — яна штучная, збудаваная на адных абсурдах.

У сваіх артыкулах В. Круталевіч не абмяжоўваецца толькі канстатацыяй вышэй успомненых фактаў. Ён раскрывае шмат цікавых рэчаў, якія дасюль так старанна захоўваліся савецкай гістарыяграфіяй. Напрыклад, ён паведамляе пра тое, што на гэтак званым «першым зьезьдзе КПБ» ў Смаленску Беларусы на чале з Жылуновічам і Чарвяковам пры ўдакладненьні тэрыторыі БССР дамагаліся ўключэньня ў яе Віленшчыны зь Вільняй, а ў новастворанных вышэйшых партыйных ворганах, у тым ліку й у ЦБ КПБ, дамагаліся правядзеньня прынцыпу парытэтнасьці ці раўнапраўнасьці ў кіраўніцтве. Аднак, пры падтрымцы, ведама, Масквы абласьнікі з гэтак званага «Северо-Западного обласного комитета РКП(б)» супрацьпаставіліся гэтаму, у выніку чаго ў ЦБ КПБ ўвайшлі толькі Жылуновіч і Лагун. Гэта прывяло да таго, што Жылуновіч, падтрыманы іншымі Беларусамі, нейкі час адмаўляўся публікаваць Маніфэст пра абвешчаньне БССР. Як піша Круталевіч, абласьнікі, якія трымалі ў сваіх руках КПБ й бальшыню, пры гэтым важнейшых, камісарыятаў у часовым урадзе БССР, былі адкрытымі праціўнікамі БССР і ўсе свае сілы ськівоўвалі на тое, каб яе

**(Заканчэньне на 3-ай бач.)**

# Свае й чужыя інтарэсы

Як і трэба было чакаць, цэнтралізацыя кіраўніцтва савецкай эканомікай выклікала незадаваленьне ў колах рэспубліканскіх гаспадарнікаў. Рэспубліканскія гаспадарчыя органы пачуліся абмежаванымі ў сваіх правах пасьля новай канцэнтрацыі ў руках Масквы кіраўніцтва ўсімі важнейшымі галінамі прамысловасьці. Перад партыйным кіраўніцтвам паўстала пагроза таго, што рэспублікі пачнуць абыякава ставіцца да прадпрыемстваў гэтак званага ўсесаюзнага падпарадкаваньня, разьмешчаных на іхнай тэрыторыі, але падпарадкаваных беспасярэдня Маскве, што ўзьнікла небясьпека падзелу прадпрыемстваў на «свае» й «чужыя». Трывога Масквы знайшла сваё адлюстраваньне ў перадавіцы цэнтральнага партыйнага органу газэты «Праўда» з 24 студзеня. Газэта ўважала за патрэбнае яшчэ раз падкрэсьліць пункт гледжаньня ЦК партыі на ролю, правы й адказнасьць нацыянальных рэспублікаў у савецкай дзяржаве, асабліва ў галіне эканомікі. «Праўда» заяўляе, што «правільнае» спалучэньне «цэнтралізаванага кіраўніцтва» зь «мясцовымі правамі» гэта – «пытаньне прынцыповае, пытаньне вялікае палітыкі». «Новая сыстэма кіраваньня прамысловасьцяй, — папераджае газэта, — не дапушчае падзелу ў саюзных рэспубліках прадпрыемстваў на ,свае' й ,чужыя'» і заклікае «выступаць супраць якіх-бы там ні было праяваў месьніцтва й нацыянальнае абмежаванасьці».

Але што патрэбнае «Праўдзе», маскоўскаму ЦК — далёкае ад таго, што патрэбнае рэспублікам, ейнаму насельніцтву. Кожнаму свая кашуля бліжэй да цела. Адпаведна з гэтым, на зьездах рэспубліканскіх кампартыяў і Вярхоўных Саветаў кіруючыя партыйцы выступалі за дакладнае захаваньне дзяржаўнай («усесаюзнай») дысцыпліны, але звычайныя, нізавыя «дэпутаты» на гэтых зьездах кладуць большы націск на забясьпячэньне беспасярэдніх патрэбаў жыхарства сваіх рэспублікаў.

Характэрным у гэтым дачыненьні былі выступленьні дэпутатаў на сёмай сэсіі Вярхоўнага Савету Беларускай ССР, якая адбылася ў другой палове сьнежня мінулага году ў Менску.

Ведама, што дамаганьні, зь якімі выступаюць савецкія дэпутаты, вельмі сьціплыя й асьцярожныя, і не адлюстроўваюць усіх патрэбаў народнай гаспадаркі рэспублікі, і ўсіх патрэбаў насельніцтва. Але трэба адзначыць, што на гэтай сэсіі Вярхоўнага Савету дэпутаты выказаліся значна свабадней. Іхныя прамовы не абмяжоўваліся толькі хваласпевамі ў адрас партыі і ўраду. Пармовы былі больш рэчовымі, у іх шмат месца прысьвячалася крытыцы недахопаў і было пастаўлена шмат канкрэтных патрабаваньняў.

Можна сказаць, што ўся крытыка канцэнтравалася на капітальным будаўніцтве ў рэспубліцы. Падамо некалькі канкрэтных прыкладаў.

Дэпутат Луцкін гаварыў :

«... У Магілеве пачалося будаўніцтва камбінату сынтэтычнага валакна – лаўсану. Для будаўнікоў, рабочых і служачых камбінату ў 1966 годзе неабходна ўвесьці ў эксплёатацыю 28 тысяч квадратных мэтраў жылой плошчы. Плянамі на новы год чамусьці прадугледжваецца ўвесьці толькі 14 з палавінай тысячаў квадратных мэтраў жылой плошчы. Мы просім разгледзець гэтае пытаньне і выдзеліць на 1966 год капіталаўкладаньні, як гэта й было прадугледжана раней».

Дэпутат Кліменка з Гомельшчыны заяўляў:

«... Паскоранае разьвіцьцё нафтаздабычы патрабуе ўкамплектаваньня кваліфікаванымі кадрамі нафтапромыслу й стварэньня працуючым там нармальных жыльлёва-бытавых умоваў. Аднак Міністэрства будаўніцтва рэспублікі ня прыняло рашучых мераў для выкананьня пляну жыльлёвага будаўніцтва. У выніку ўвод у дзеяньне жыльля сарваны.

З Бабруйску алярмавалі:

«Колькасьць насельніцтва гораду за апошнія гады павялічылася амаль удвая. Зьявілася шмат новых прадпрыемстваў, значна расшыраныя раней дзеючыя. Між тым у горадзе жыльлёвае будаўніцтва адстае ад тэмпаў разьвіцьця прамысловасьці».

Дрэнна стаіць справа з забясьпячэньнем насельніцтва жыльлём ня толькі ў горадзе, але й на вёсцы. Да гэтага-ж на сяле надзвычай марудна ідзе будаўніцтва ўстановаў грамадзкага абслугоўваньня. Дэпутат Якавенка, напрыклад, гаварыў:

«Насельніцтва сельскай мясцовасьці, якое імкнецца будаваць сабе жыльлё за лік сабраных сьберажэньняў, у большыні сваёй ня можа набыць у нашых магазынах сьценавы матарыял, дахавае крыцьцё й іншыя будаўнічыя матарыялы. Недахоп будаўнічых матарыялаў тлумачыцца галоўным чынам тым, што ў рэспубліцы не ўдзяляецца належная ўвага разьвіцьцю магутнасьцяў вытворчасьці будаўнічых матарыялаў і адсутнічаюць неабходныя клопаты аб дзеючых прадпрыемствах ...»

«Аб'ём будаўніча-мантажных работаў спажыўкаапэрацыі ў суме 18 мільёнаў рублёў забясьпечаны матарыяламі толькі на 8 мільёнаў 400 тысяч рублёў. Улічваючы важнасьць гэтых аб'ектаў для вёскі, праўленьне Белкаапсаюзу просіць Савет Міністраў і Дзяржплян рэспублікі знайсьці магчымасьці і выдзеліць спажыўкаапэрацыі неабходныя будаўнічыя матарыялы.»

Падобнае дамаганьне ставіў і дэпутат Мацюшэўскі:

«Мы лічым, што настаў час вырашыць пытаньне аб выдзяленьні калгасам крэдыту на культурна-бытавое будаўніцтва на тых-жа ўмовах, як і на прамысловае. Гэта дазволіць значна лепш весьці ў калгасах убдаўніцтва культурна-бытавых памешканьняў.»

Культурна-бытавое будаўніцтва кульгае таксама і ў горадзе. Возьмем сталіцу Беларусі Менск, дзе будаўніцтву партыйныя і ўрадавыя органы прыдаюць найбольш увагі. А тымчасам ...

«Менск, ня гледзячы на значныя аб'ёмы жыльлёвага й культурна-бытавога будаўніцтва, перажывае цяжкасьці ў забясьпячэньні насельніцтва жыльлём, дзіцячымі дашкольнымі ўстановамі. Не хапае паліклінікаў і аптэкаў, вызначыўся вельмі сур'ёзны разрыў паміж забудовай гораду й ступеняй інжынернай падрыхтоўкі гарадзкіх тэрыторыяў.

За апошніх пяць гадоў ніразу ня выконваўся плян будаўніцтва прадпрыемстваў камунальнага абслугоўваньня. Хранічным стала адставаньне будаўніцтва дзіцячых дашкольных установаў і прадпрыемстваў гандлю. Дрэнна выконваецца плян будаўніцтва мэдыцынскіх установаў.»

Такое палажэньне ў Менску. А што гаварыць пра меншыя гарады, гарадзкія пасёлкі, вёскі!

Усе гэтыя скаргі й просьбы, калі можна так сказаць, грамадзкіх нізоў накіраваныя на адрас Дзяржпляну і Савету Міністраў БССР. Чым-жа апраўдваюцца рэспубліканскія гаспадарчыя і ўрадавыя інстанцыі? Яны звальваюць віну на міністэрства будаўніцтва БССР.

Дэпутат Каменскі сфармуляваў гэты закід Міністэрству будаўніцтва так:

«... Паўтараю, галоўнай прычынай нявыкананьня пляну капітальнага будаўніцтва ў рэспубліцы за мінулыя II месяцаў зьяўляюцца сур'ёзныя недахопы ў арганізацыі будаўнічай вытворчасьці й нізкая вытворчая дысцыпліна, нездавальняючая праца ў справе выхаваньня кадраў будаўнікоў.»

Праўда, у канцы свайго выступленьня й Каменскі мусіў прызнаць:

«У ходзе абмеркаваньня народна-гаспадарчага пляну й бюджэту рэспублікі на 66-ы год шмат якія дэпутаты выказвалі пажаданьні аб павялічэньні капіталаўкладаў на будаўніцтва тых ці іншых аб'ектаў. Сэсія Вярхоўнага Савету, відаць, даручыць ураду уважліва разгледзець гэтыя просьбы й па магчымасьці іх задаволіць.»

З свайго боку, міністар будаўніцтва Жыжаль ня прыняў усіх абвінавачаньняў, якія ставіліся на адрас ягонага міністэрства й падпарадкаваных яму будаўнічых арганізацяў. Ён заявіў:

«... сур'ёзнымі прычынамі нявыкананьня плянавых заданьняў і асабліва па ўводу аб'ектаў у эксплёатацыю, побач з недахопамі ў арганізацыі вытворчасьці, ёсьць недахопы ў плянаваньні, несваечасовае забесьпячэньне асобных будоўляў матарыяламі, тэхнічным абсталяваньнем, а таксама адставаньне ў разьвіцьці вытворчых магутнасьцяў уласнай базы будаўнічай індустрыі».

Такім чынам, адзін абвінавачвае другога. І на першы пагляд цяжка разабрацца, дзе-ж ляжаць прычыны таго, што выпрацоўваныя пляны будаўніцтва ня выконваюцца і што гэтыя пляны не прадугледжваюць будаўніцтва там, дзе яно найбольш патрэбнае. Няма сумлеву, што вінаватыя тут і дрэнная арганізацыя працы будаўнічых трэстаў, і дрэннае плянаваньне. Але гэта не адзіная й не асноўная прычына.

Кожнае капітальнае будаўніцтва вымагае інвэстыцыі фінансавых сродкаў, сваечасовага забесьпячэньня будоўляў матарыяламі. Гэта добра разумелі дэпутаты, якія дамагаліся ад ураду выдзяленьня або павялічэньня капіталаўкладаў. Найбольш такіх дамаганьняў ішло ад нізавых прадстаўнікоў сельскага й гарадзкога жыхарства. Насельніцтва дамагаецца павялічэньня капітальных асыгнаваньняў на жыльлёвае будаўніцтва, на будаўніцтва школаў, шпіталёў, гандлёвых памешканьняў, прадпрыемстваў вытворчасьці прадметаў народнага спажываньня. Гэты сэктар знаходзіцца ў распараджаньні рэспубліканскіх органаў. Каб выдзеліць капіталы на гэтыя патрэбы, трэба іх мець. А ведама, што рэспубліка да гэтага часу распараджаецца толькі тымі фінансавымі сродкамі, якія яна атрымоўвае з Масквы ў рамках вузкага рэспубліканскага бюджэту. Да гэтага, рэспубліка магла выкарыстоўваць гэтыя сродкі толькі на тыя мэты, якія вызначаў ёй накінуты Масквой плян.

Цяпер, пасьля апошняй рэарганізацыі прамысловасьці, рэспублікі, як быццам, атрымалі права перараcьмяркоўваць капітальныя асыгнаваньні, але ня ведама ў якіх межах.

Як-бы там ні было, тых сродкаў, якія былі адлічаныя ў Маскве ў бюджэт Беларускай ССР і на 66-ы народнагаспадарчы год, далёка недастаткова, каб пакрыць патрэбы падпарадкаванага рэспубліцы будаўніцтва. Трэба не забывацца, што патрэбы Беларусі ў гэтай галіне вялізарныя. Жыльлёвы й прамысловы фонд Беларусі быў у часе вайны прапарцыянальна найбольш разбураны. Ня гледзячы на гэта, цэнтральныя органы ў Маскве, якія манапалізуюць у сваіх руках усе фінансавыя рэсурсы, на працягу пасьляваенных год не рабілі ніякіх захадаў, каб прызнаць для адбудовы Беларусі нейкія дадатковыя сродкі. Наадварот!

Хопіць узяць апошнія зборнікі «Народное хозяйство СССР», падлічыць су-

(Заканчэньне на 4-ай бач.)

# Зварот Прэзыдэнта БНР...

(Заканчэньне з 1-ай бач.)

рычніка». Ужо такі даўгі, больш як трохгодні тэрмін гэтае падрыхтоўкі сьветчыць пра тое, як нялёгка партыі ўзварушыць «усенародны энтузіязм».

Бяспрэчна ,найгалаўнейшым грамадводам усенароднага гневу будзе ў гэтай прапагандовай шумісе выхваляньне савецкай улады, савецкай навукі і ейных дасягненьняў у галіне касьмічных палётаў, будуць пагрозы «імпэрыялістым» наймагутнейшай савецкай зброяй. Але ёсьць ужо й анэкдатычна-сьмешныя, калі-б не трагічныя, абяцанкі падарунку Беларусам да «вялікага кастрычніка»: даць *настольны каляндар беларускаму селяніну ў белраускай мове* ... На 48-ым годзе існаваньня «сувэрэннае» «беларускае» дзяржавы — БССР ! . .

Нячутно затое нідзе, каб падрыхтоўваліся да сустрэчы гэтага «вялікага кастрычніка» хоць-бы такія падарункі, як лекі для змаганьня з так пашыранымі ў Беларусі сухотамі, якія ў «капіталістычным» сьвеце ўжо не ўважаюцца небясьпечнай хваробай, ды дазвол перасылкі замежных мэдыкамэнтаў у СССР.

Было-б адылі несправядлівым, калі-б мы зусім адмаўлялі культурныя й навуковыя дасягненьні нашых суродзічаў на Бацькаўшчыне.

Нас, за межамі, асабліва цешыць выкрыцьцё ў нетрах беларускай зямлі залежаў солі, нафты, вугалю й іншых мінэральных багацьцяў. Кажны Беларус, дзе-б ён ні быў і да якога-б палітычнага кірунку ні належаў, не адмовіць ў прызнаньні і ўдзячнасьці тым, хто спрычыніўся да зьнішчэньня ад веку пашыранага паклёпу пра прыроджаную мізэрнасьць Беларусі, бо паклёпы такія былі заўсёды адным з улюбёных аргумэнтаў, найчасьцей ужыванай нашымі ворагамі зброяй супраць ідэі незалежнасьці Беларусі.

Будзем аднак энэргічна пратэставаць супраць прыпісваньня заслугаў у гэтым камуністычнай партыі, савецкаму рэжыму й савецкай навуцы, як ужо пасьпяшаліся зрабіць бальшавікі, бо-ж нам дасканала ведама, што Калюмбам у адкрыцьці прыгаданых багацьцяў быў вядомы беларускі патрыёт з нашаніўскіх часоў, геалёг Міхайла Грамыка, які з групай сваіх гадунцоў-студэнтаў быў схоплены бальшавікамі ў 1930 годзе ў Мазыршчыне за працай, «на гарачым учынку», абвінавачаны ў марнатраўстве дзяржаўных сродкаў дзеля пашырэньня «беларускага гаспадарча-эканамічнага шавінізму» й сасланы ў Сібір.

Уся «заслуга» савецкай улады ў тым, што яна запозьніла роўна на 25 год здабычу гэных багацьцяў, распрацоўкі якіх у свой час настойліва дамагаўся М. Грамыка.

Хвала й гонар тым патрыётам, пасьлядоўнікам М. Грамыкі, якія, скарыстаўшы з часовай, тактычнай прадушыны — «дэсталінізацыі», дакончылі пачатае М. Грамыкам.

У паходзе насустрач 50-годзьдзю «вялікаму кастрычніку» акупанцкія «спэцыялістыя» ўжо пачалі масавую фабрыкацыю розных «гістарычных» рэзалюцыяў, падрыхтоўку тамоў пашквіляў на нашае нядаўнае мінулае, на сам наш народ, на ягоную запраўды законную й гістарычную дзяржаўную ўстанову — Раду й урад БНР.

Але й тут мы адкажам словамі нашага вялікага прарока:

«Ня столькі «хамскія» натуры
На карках вынесьлі сваіх!
І сьвіст даношчыкаў пануры,
Паверце, не запудзіць іх!»

Сёньня-ж, у дзень нашага Вялікага Сьвята, я, ад сябе асабіста й ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, сардэчна вітаю ўсіх нашых суродзічаў на Бацькаўшчыне й на чужыне. Жадаю ўсім здароўя, сілы, вытрываласьці й шчырай братня-беларускай узаемнай пашаны й любові ў змаганьні за нашыя супольныя Ідэалы!

Жыве Беларусь у змаганьні!

Жыве Беларуская Народная Рэспубліка!

*(—) Мікола Абрамчык*
Прэзыдэнт Рады БНР

Парыж, 25 Сакавіка, 1966

*П. Урбан*

# Спроба рэгабілітацыі гісторыі Беларусі ў БССР

Сустракаючыся з архіўнымі матарыяламі ды самастойна вывучаючы працэс гістарычнага разьвіцьця беларускага народу, апошнімі гадамі шматлікія беларускія навукоўцы ў БССР пачалі зьвяртаць увагу на недарэчнасьці й ману савецкай гістарыяграфіі ў насьвятленьні гісторыі Беларусі.

Яны шырокім фронтам выступілі супраць канцэпцыяў гэтай гістарыяграфіі, што цьвердзілі, быццам у мінулым беларускі народ ня меў свае культуры і ў культурным разьвіцьці поўнасьцяй залежаў ад культуры, якая шла да яго з Маскоўшчыны. Праўдзівей сказаць, прыходзяць яны да выснаву, што усё было наадварот, прынамся, калі мова йдзе пра XVI і XVII стагодзьдзі (*Полымя*, 4, 1965, бб. 184—187; 10, 1965, бб. 146—154; *Маладосць*, 6, 1965, бб. 121—125). Адначасна беларускія навукоўцы проста высьмейваюць практыку савецкай гістарыяграфіі, якая навязвае ў прасьветнікі беларускаму народу расейскіх эмігрантаў Івана Фёдарава, князя Курбскага, манахаў Касога й Арцёма. Як яны зазначаюць, дзейнасьць такіх «прасьветнікаў» у «запраўднасьці насіла на тэрыторыі Беларусі вельмі супярэчлівы, у сваёй аснове рэакцыйны характар». Высьмейваюць яны й практыку, якая «прагрэсыўнасьць» бачыць толькі ў праваслаўі, у той час, як вуніяцтва й каталіцтва атаесамлівае з «кансэрватызмам», «рэакцыяй» і «чужой агентурай».

Зьвернемся аднак да пытаньняў больш прынцыповага характару.

Афіцыйная савецкая канцэпцыя цьвердзіць, што моўна й наагул нацыянальна беларускі народ пачаў выдзяляцца толькі ў XIV—XV стагодзьдзях. Гэтаму спрыялі мангольскія заваёвы й «літоўская экспансія», што разбурылі «старажытнарускую дзяржаву» й падзялілі на часткі «адзіны старажытнарускі народ». Апынуўшыся ў палітычнай ізаляцыі адзін ад аднаго, паступова пачалі складацца беларускі, расейскі й украінскі народы й іхныя мовы. Закранаючы гэтае пытаньне ў сваей рэцэнзіі на кнігу А. Крывіцкага (*Наша родная мова*. Менск, 1964), малады беларускі навуковец В. Чамярыцкі вельмі дарэчы пытаецца: «Чаму шматвяковае сумеснае жыцьцё продкаў Беларусаў і Ўкраінцаў, карыстаньне агульнымі пісьмовымі мовамі не прывяло да ўтварэньня аднаго народу на тэрыторыі Беларусі й Украіны?» (*Полымя*, 2, 1965, б. 178). Ён піша далей: «Таму наіўна аб'яўляць факт утварэньня трох братніх усходнеславянскіх народаў, рускай, беларускай і ўкраінскай моваў выпадковай гістарычнай памылкай». В. Чамярыцкі зусім слушна цьвердзіць, што і ў эпоху Кіеўскай Русі ўсходнія славяне «не складалі маналітнага адзінства» ды што «большасьць асаблівасьцяў сучасных усходнеславянскіх моваў і іх гаворак мелі месца ўжо ў XII—XIII стагодзьдзях», гэта значыць яшчэ да ўспомненых мангольскіх заваёваў і «літоўскай экспансіі». Сьледам за іншымі беларускімі навукоўцамі В. Чамярыцкі выступае таксама супраць тэндэнцыяў называць беларускую мову эпохі Вялікага Княства Літоўскага «заходнярускай» ці проста «рускай» мовай. Ён ускліквае: «Навошта аднаўляць тэрміналёгію буржуазных дасьледчыкаў?» ды падкрэсьлівае, што «мы справядліва называем і без ваганьняў павінны называць гэтую мову старажытнабеларускай».

Не абмінулі беларускія навукоўцы й самага кардыяльнага пытаньня — пытаньня беларускае дзяржаўнасьці ў мінулым. Як ведама, паводля тэорыяў савецкай гістарыяграфіі, беларускі народ быў безьдзяржаўным да 1919 году, калі гэтую дзяржаўнасьць ён атрымаў з рук Леніна й Сталіна. У полацкую эпоху ён тварыў адзінае цэлае з «старажытнарускай дзяржавай», а ў эпоху Вялікага Княства Літоўскага беларускі народ быццам перажываў нацыянальнае прыгнечаньне сяньняшняе Летувы, а потым і Польшчы.

У васноўным беларускія навукоўцы краналіся Вялікага Княства Літоўскага й ягонага нацыянальнага характару. Больш або менш станоўча іхныя высновы зыходзіліся ў тым, што гэтая дзяржава была больш беларускай, чымся летувіскай, і «Літвінамі называліся тады, уласна кажучы, Беларусы» (*Полымя*, 10, 1965, бб. 146—154; 1, 1966, бб. 142—149). Аднак кропку на «і» паставіў Мікола Прашковіч у сваёй рэцэнзіі на кнігу А. Каршунова «Афанасий Филиппович. Жизнь и творчество» (Менск, 1965), якая была прысьвечана, як праўдзіва зазначае рэцэнзэнт, аднаму з «шпіёнаў» маскоўскага цара.

У гэтай рэцэнзіі (*Полымя*, 12, 1965, бб. 174—177) М. Прашковіч канкрэтна цьвердзіць, што Вялікае Княства Літоўскае было славянскай, нацыянальна-беларускай дзяржавай. «Дзяржаўнай мовай на тэрыторыі ўсяго княства, — піша ён, — была беларуская мова», таксама «эканамічную, палітычную й ваенную сілу дзяржаве давалі беларускія і ўкраінскія землі». Таму дзіўнымі паказваюцца сьцьверджаньні, быццам «маленькі і зь менш разьвітай у тыя часы культурай літоўскі народ захапіў вялізарныя прасторы беларускіх і ўкраінскіх земляў і прыгнятаў Беларусаў і Ўкраінцаў». Наагул, — пісаў Прашковіч, — недарэчнымі зьяўляюцца спробы бачыць у Вялікім Княстве Літоўскім сяняшнюю Летуву. Калі-ж ідзе пра назовы «Літва», «літоўскі», дык тут варта ўспомніць Сьвяшчэнную Рымскую імпэрыю ці Прусію, якія былі чыста нямецкімі дзяржавамі й нічога супольнага ня мелі зь Італіяй ці з старажытнымі Прусамі.

Разам з гэтым М. Прашковіч адкідае й канцэпцыі савецкай гістарыяграфіі, быццам Маскоўшчына была тэй сілай, якая нясла беларускаму народу нацыянальнае й сацыяльнае вызваленьне. Ён піша, што для беларускага народу ня было патрэбы шукаць гэтага вызваленьня дзесьці збоку; ён сам клапаціўся пра сваё нацыянальнае жыцьцё. Калі-ж ідзе пра «вызваленьне», несенае Маскоўшчынай, дык у запраўднасьці гэта было «брудным гандлем паміж рускім царом і польскім каралём», «прадметам якога былі беларускія й украінскія землі». Не магчыма было чакаць з Маскоўшчыны і сацыяльнага вызваленьня, бо, фактычна, «прыгон у рускай дзяржаве быў у некалькі разоў больш цяжкі, чым у Вялікім Княстве Літоўскім».

З асаблівай сілай і сарказмам М. Прашковіч крытыкуе афіцыйныя савецкія пагляды на царкоўную вунію й вуніяцтва ў Беларусі. Называючы праваслаўе ледзь не «нацыянальнай» верай і ставячыся да яго дадатна, у савецкай гістарыграфіі вунія й вуніяцтва заўсёды разглядаліся, як штосьці антынароднае, ганебнае й здрадніцкае. Успомнены А. Каршуноў таксама

# Трубадур віцебскіх падпольных пацукоў

«Вам, цемнатворцам блізкім, далёкім,
Шлю свой прывет і ласку ад сэрца;
Дзякуй шлю вам, шмялём сьлепавокім,
Дзякуй! Хай далей моц ваша прэцца!»
Янка Купала

Каб у чытача адразу склалася адпаведнае ўражаньне, што зь сябе ўяўляе бэсэсэраўскі пісьменьнік Рыгор Няхай, агляду кніжкі якога «Героі не адступаюць» (Менск. 1965 г.) прызначаны гэты артыкул, не залішне спачатку прыгадаць ягоны твор «Ці ёсьць у цябе хоць кропля сумленьня?», зьмешчаны ў № 843 газэціны «Голас радзімы». Бясcорамна выхваляючы ў ім сябе ды спрабуючы забрудзіць паэту Масея Сяднёва, ён, між іншага, павучальна махае яму пальцам:

«Вось так, Масей Сяднёў... Памятаеш, восеньню 1939 года, калі я ішоў у армію, сустрэў цябе на Віленскім сквэры ў Мінску. Мы тады прыселі на лавачцы і ты чытаў свае новыя вершы».

Ці хіба-ж увосені 1939 г. запраўды мелася гэтая ідылія? У той час савецкі катаржнік Масей Сяднёў гібеў у адным з шматлікіх канцлягероў Калымы, дзе, як ён пазьней пісаў:

«Падганялі мяне штыкамі
аб каменьне я раніў цела,
каб чырвонымі агнямі
золата яшчэ больш зіхацела».

Толькі вайна вызваліла Масея Сяднёва зь Менскай турмы, куды яго напярэдадні яе прывезьлі энкавэдэшнікі на перагляд справы, каб накінуць да адпакутаваных ім пяці год яшчэ столькі ды потым канчаткова дабіць на Калыме. Ці патрэбна тут якая далейшая характарыстыка Рыгора Няхая, як чалавека й пісьменьніка?

Кніжка «Героі не адступаюць» напісана, як сьцьвярджае анатацыя да яе, на падставе дакумантальнага матар'ялу й прысьвечана змаганьню віцебскага камуністычнага падпольля, разам зь вядомай Верай Харужай, супраць фашыстых. І перадусім зьвяртае на сябе ўвагу самы ейны назоў. Мімаволі дзівіць, чаму савецкі грамадзянін Рыгор Няхай ускосна пляміць армію савецкай Расеі, што адступіла ад Бугу аж да Волгі. Дарэчы, царская Расея ў часе Першай сусьветнай вайны не дапусьціла тых-жа немцаў да Дзьвіны й Дняпра. Калі шкурнікі ратуючы сваю скуру даюць драла, дык і гэроі часам адступаюць, але каб урэшцерэштаў перамагчы. Ніколі не адступаюць толькі фанатыкі, якія таму заўжды гінуць. Тыповым доказам гэтага й зьяўляецца Вера Харужая.

Варта спачатку прыгадаць жыцьцё Веры Харужай, каб пераканацца ў тым, што ейная заўчасная сьмерць зьяўляецца зусім натуральнай. Перакінутая ў 1924 г. з СССР у Польшчу для дывэрсыйнай працы, яна — савецкая грамадзянка – прызначаецца там сакратаром ЦК ЛКСМ Заходняй Беларусі. У 1928 г., на «Працэсе 133» у Беластоку, Вера Харужая прысуджваецца да 8 год турмы, але ў 1932 г., польскі ўрад абменьвае яе — савецкага шпега — на свайго шпега, выкрытага саветамі, і яна вяртаецца ў СССР. Цікава, што за часы яжоўшчыны яе абвінавачваюць у польскім шпегоўстве і высылаюць у Казахстан, але напярэдадні вайны яна зноў на волі. Маючы такім чынам вялікую шпегоўска-дывэрсыйную практыку, Вера Харужая ў 1942 г. накіроўваецца Масквой у падбіты немцамі Віцебск для падпольнай барацьбы, дзе праз якога паўтара месяца гіне. Чаму-ж так хутка?

Распачну з другараднага й разам з тым зусім дастатковага, каб ня толькі віцебскія паліцыянты, але й жыхары зьвярнулі ўвагу на Веру Харужую, як на падазроную асобу. Згодна з плянам Масквы, дзеля абжыцьця ў Віцебску, яна, разам з 30-мі (!) адначасна зь ёй дасланымі камсамолкамі, мелася ў ім адкрыць... кравецкае атэлье. З аднольканым посьпехам можна было ў горадзе, дзе бракавала жменькі мукі для зацірki наладзіць гандаль абрыкосамі й ананасамі. А хіба не заўважылі-б усе нечаканае зьяўленьне ў беларускім Віцебску вялікай групы дзяўчат, што размаўляюць на дакладнай расейскай мове ды аж з маскоўскім націскам? Акрамя таго, блага падробленыя дакуманты Веры Харужай на імя Карнілавай Ганны аніяк не адпавядалі ейным спробам выдаваць сябе ў Віцебску за немку з Рыгі. А ў дадатак сама Харужая зусім не прытрымлівалася элемэнтарных правілаў канспірацыі, бо ў часе першага допыту ў СД адна з арыштаваных віцяблянкаў адразу выкрывае яе, называючы Верай.

Аднак ўсё-ж ня ў гэтым палягае галоўная прычына пагібелі Харужай. Як хлусіць Няхай, у акупаваным Віцебску меліся «сотні, тысячы людзей, якія шукалі сувязі з падпольлем». Так толькі здавалася Маскве й ейным лёкаям. А ў запраўднасьці пераважная бальшыня віцяблянаў спрабавала ставіцца нэўтральна як у дачыненьні да фашыстых, гэтак і да камуністых, што зусім не выпадкова. Калі за часы вайны на іх палявалі чужынцы, дык за мірныя часы тое-ж ня ў меншай ступені практыкавалі «свае» гэпэўшнікі. Калі захопнікі немцы пакінулі па сабе ў страшэнных ярох Тулава магілы закатаваных імі віцяблянаў, дык перад тым, за 1918-40 гг., захопнікі расейцы таксама расстралялі ў глыбокім Духаўскім рове бяз ліку іх. Калі за фашыстых тыя зь віцяблянаў, што тамсям працавалі, даставалі штодня да 200 грамаў хлеба на дарослых і па 100 грамаў на дзяцей, дык за камуністых, за часы іхных першых пяцігодкаў, яны атрымлівалі яго па харчовых картках ад 500 да 100 грамаў на дарослых і ні каліва на дзяцей. Досыць прыгадаць пры гэтым Барысаўскі галодны бунт 1933 г., пасьля якога блізу 700 кабет і падлеткаў паляглі ў магілах на Чычагоўскіх Батарэях. Яны прасілі ў «свае» ўлады акраец хлеба (200 грамаў), а дасталі ад яе на душу па два залатнікі волава. Таму нічога дзіўнага няма, што камуністыя, як і фашыстыя не зьяўляліся для віцяблянаў і ні сябрамі, і ні таварышамі.

Зразумела адсюль, чаму вельмі кволае віцебскае камуністычнае падпольле складалася ў сваёй бальшыні ні з віцяблянаў, а з выпадковых ды чужых у горадзе людзей, што пацьвярджае й сам Рыгор Няхай у сваім творы. Гэткім зьяўляецца, напрыклад, адзін зь ягоных галоўных падпольных гэрояў – шавец, або «братка». Яму, афіцэру, сапёру савецкай арміі, камандзер загадаў падарваць мост праз Дзьвіну, а ён замест гэтага самохаць апынуўся з гранатай у руцэ ў акопах каля Юр'евай горкі. У выснаве яго цяжка паранілі, а па ўцаленым мосьце хутка перайшлі на другі бок ракі сотні нямецкіх танкаў і гарматаў ды тысячы жаўнераў, перасьледуючы рэштки савецкіх арміяў. Хіба не падлягаў ён, паводля вайсковага статуту любой краіны, расстрэлу на мейсцы, але за тое Няхай... уздымае яго на шчыт. Кіраўнік віцебскага падпольля інжынэр Максім, ёнжа «Медны», знаходзіўся не ў тых бездапаможных акопах, бо – «адганяў паравозы да Смаленску». Карацей кажучы — уцякаў, бяручы прыклад з вышэйшых партыйных шкурнікаў накшталт першага сакратара Віцебскага абкому КП(б)Б Стулава, які, калі немцы былі яшчэ пад Полацкам, уцёк у Маскву аж на самалёце, а таксама з першага сакратара ЦК КП(б)Б Панамарэнкі, што ў часе панічнага драпаку забіў сваёй аўтамашынай у прадмесьці Менску шасьцігадовую дзяўчынку Насту Бульбянік. І зусім натуральна, што як толькі над ім навісла пагроза выкрыцьця, колішні няўдалы ўцякач Максім «Медны» адразу перапаўзае за партызанскую сьпіну, пакідаючы ў віцебскім падпольлі бадай вылучна адну беспартыйную сям'ю Вераб'ёвых разам з бабкай Марыляй, на якой трэба затрымацца асобна.

Як падглядзіў Няхай, бабка Марыля «бухнулася перад маленькім абразком». Перадусім, хіба не характэрна гэтае пагардліва-зьняважальнае — ««бухнулася» для стылю «інжынэра чалавецкіх душаў», хоць, між іншым, ён і ня здагадваецца, што няма вялікіх абразкоў. Аднак больш істотнае ў іншым. Яна, глыбака рэлігійная, нібы малілася за перамогу бальшавікоў, за разбуральнікаў усіх сьвятыняў, што ў ейным-жа горадзе, як блюзьнеры й барбары, зьнішчылі выдатныя помнікі рэлігіі, гісторыі й мастацтва – велічны Вусьпенскі сабор, «Чорную Тройцу», Уваскрасенскую Рынкавую царкву, Тройцу Маркаў манастыр і ўрэшце-рэштаў сэрца старадаўняга Віцебскую — бяз мала тысячагадовую царкву Дабравешчаньня. А калі толькі бабка Марыля й запраўды малілася за зварот іхняга панаваньня, дык вельмі нагадывала пры тым тую старую, пра якую Ян Гус сказаў:

— О, сьвятая прастэча.

Ня трэба пасьля ўсяго гэтага зьдзіўляцца, чаму 24 лістапада 1942 г, у сутараньні старажытнага будынку былой духоўнай сэмінарыі, прыстасаваным пад турму СД, загінула Вера Харужая. Ня было на каго ёй абаперціся — ні на беларускі Віцебск, ні на ягонае расейкае падпольле. І ні нам – беларусам -- яе аплакваць. Няхай галосіць па ёй Масква ды скуголяць на маскоўскі лад бэсэсэраўскія калябаранты. А хіба не паказальна, што скончыла яна сваё жыцьцё менавіта ў гэтым будынку на Вусьпенскай горцы? Даруйце за асабістае — там вучыліся мае дзяды, бацька й дзядзькі. Амаль усе яны загінулі пакутніцкай сьмерцю ў нязьлічоных савецкіх канцлягерох толькі за тое, што зьяўляліся сьвятарамі. І вечная памяць усім закатаваным бальшавікамі пастырам, усіх веравызнаньняў, нашай шматпакутнай Беларусі.

Пасьля пагібелі Веры Харужай, шпурнутай Масквой у пашчу Бэрліну — Максім «Медны» крыху адсопшыся ў хмызьняках бліжэйшага балота зноў аб'явіўся ў Віцебску і, паводля Рыгора Няхая, сказаў:

«Да пакараньня сьмерцю прысуджаны многія — Рэкша, Пятроў, рэдактар газэты, пісьменьнік-пасквілянт... Хай нам не ўдасца прывясьці ў выкананьне прыгавор над усімі імі, але мы пакажам, што падпольле жыве, дзейнічае»

– а каб выканаць гэтае –

«... партызанскія разведчыкі добра вывучылі рэжым дня рэдактара газэты і яго паплечніка-«пісьменьніка». Яны хоць і ахоўваліся паліцаямі на рабоце, дома і ў дарозе, але жылі на гарадзкіх кватэрах і падступіцца да іх можна было».

30 лістапада 1942 г. рэдактар газэты А. Врандт быў забіты на вуліцы, аднак не віцебскім падпольлем, а партызанамі, што прыйшлі зь лесу. Гэты тэрарыстычны акт сьветчыць, папершае, аб тыповай бальшавіцкай пагардзе да далёйшага лёсу сваіх грамадзянаў, а, падругое, увогуле ёсьць бяссэнсоўны й бязмэтны. У адказ на яго, немцы, па свайму звычаю, вырашылі расстраляць 50 закладнікаў зь мясцовай турмы, што складаліся пераважна з кабетаў і падлеткаў, затрыманых у часе аблаваў на гарадскіх рынках. Тагачасны бургомістар Віцеуску зь вялікай цяжкасьцю, але дамогся замены расстрэлу іх адпраўкай на работу ў Нямеччыну, скуль яны вярнуліся па вайне. Гэтак ненавісная камуністым газэта ня спыніла сваё існаваньне ні на адзін нумар, а на другі дзень пасьля забойства А. Брандта прыехаў з Смаленску ейны новы рэдактар. І можа грудзі тых пазавугольных забойцаў упрыгожваюць сёньня розныя бляшанкі-цацанкі, але сваім коштам яны таннейшыя за суравежкі.

Пісьменьніка, а ўласьне Юрку Віцьбіча, сьмерць наразе амінула, аднак зусім не таму, што, як запэўнівае Няхай, той:

«... пасьля сьмерці друга (сябры, дружбака — у перакладзе з расейскай мовы на беларускую. Юр. В.), адчуўшы нешта нядобрае і для сябе, у той-жа дзень выехаў у Мінск пад больш надзейную ахову».

Перадусім трэба заўважыць, што за часы ўсяе вайны Віцьбіч ніколі ня меў пры сябе аінякае зброі, акрамя пёрка. Потым, ніхто рашуча яго не ахоўваў на рабоце, дома і ў дарозе, хоць жыў ён ня ў цэнтры Віцебску, дзе знаходзілася рэдакцыя газэты, а на ягонай ускраіне — Гутараўшчыне. Праўда, па ім аднойчы, калі ён працаваў на сваім горадзе, стралялі зводдаль з дахавага вакна ды раз уначы падпальвалі ягоную хату, але ён не пабег пасьля гэтага са скаргай у СД, каб тым самым, на савецкі вузор, выклікаць пагібель сваіх ні ў чым не вінаватых зямлякоў віцяблянаў. У кажным нумары газэты друкаваліся ягоныя творы, а паміж імі артыкул «Шакалы вандруюць па лясах», прызначаны, як гаворыць самы назоў, маскоўскім бандытам. Толькі ў кастрычніку 1943 г. (г. зн. не праз дзень, а праз год пасьля забойства А. Брандта) Віцьбіч выехаў зь Віцебску ў Менск і зусім не таму, што спалохаўся віцебскіх падпольных аблезлых пацукоў, што самі сябе палохаліся. Да самага гораду наблізіўся фронт і спыніла сваё існаваньне мясцовая газэта.

Загадам Масквы Веры Харужай пасьмяротна нададзена годнасьць гэроя Савецкага Саюзу. Адначасна яна ўзнагароджана ордэнам чырвонага сьцягу. Ейнае імя накінута вуліцам, калгасам, заводам, школам, параплавам і г. д. У гонар яе твораць мастакі й разьбяры, кампазытары й драматургі, паэты й пісьменьнікі, а паміж апошнімі й нябог Няхай. Між тым, уся гэтая штучна разьдзьмутая слава ня вартая й паленага шэлягу. Вера Харужая зьяўляецца подвойнай ахвярай бальшавізму й фашызму ды бясслаўна загінула, як гіне толькі ў часе нечаканай паводкі ўпарты, але недабачлівы падзямельны крот. Ніхто з старэйшага пакаленьня віцяблянаў, што перажылі апошнюю вайну ў Віцебску, ня дасьць веры кніжыцы Рыгора Няхая «Героі не адступаюць». Аднак і маладыя, што нарадзіліся па вайне, усё больш і больш бяруць пад сумлеў бальшавіцкую прапагандовую чаўпню. Вось даведайцеся, калі ласка, ад самых саветчыкаў, як гавораць цяпер маладыя проста ў вочы старэйшым «гэроям».

У № 52 газэты «Літаратура й Мастацтва» за 1965 г. ёсьць артыкул «Што засталося паза сьпісам», у якім, паміж рознага іншага, аўтар разказвае:

«Мінулым летам мне давялося разам з былым партызанам-падрыўнікам – Героям Савецкага Саюза Уладзімерам Парахневічам, зрабіць паездку па Бабруйшчыне, па мясьцінах, дзе ён партызаніў. У адным мейсцы на беразе рачулкі Ола, Уладзімер Аляксеявіч прыгадаў: вось тут яны ўдвух з сябром, у няроўным баі, зьнішчылі групу фашыстаў з суседняга гарнізону. Ён пачаў расказваць, як гэта было. Мясцовы хлапчук год чатырнаццаці, круціўся побач, прыслухоўваўся да нашай размовы, а потым пераканана, амаль са злосьцю сказаў:

– Ге-роі! А пра нас не падумалі, што немцы праз вас маглі вёску спаліць!»

Пачакайце яшчэ, пачакайце й дачакаецеся. Рана ці позна ,але гэтая самая моладзь супольна з бацькамі сьхіне маскоўскае паняволеньне ды ўздыме на сваіх плячох Вольную й Незалежную Маці-Беларусь.

**Юрка Віцьбіч**





ягонага нацыянальнага характару. Абстрагуючы ад пытаньня, кім былі старажытня «Ліцьвіны», якія ўзялі актыўны ўдзел у станаўленьні Вялікага Княства Літоўскага, і не закранаючы працэсу ўтварэньня гэтага княства, трэба мець на ўвазе наступныя вырашальныя фактары. Як ядром утварэньня, так і асновай у далейшай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага былі беларускія землі; дзяржаўнай і літаратурнай мовай у гэтым княстве была беларуская мова; ягонае культурнае разьвіцьцё праходзіла на аснове культурнага разьвіцьця беларускага народу; беларускага паходжаньня былі розныя інстытуцыі, звычаёвае й пісанае права; дзяржаўным гэрбам была беларуская «Пагоня»; умацаваныя гарады-«крэпасьці» будуваліся на граніцах беларускай этнаграфічнай тэрыторыі. У гэтым княстве ня было дыскрымінацыі, якая-б асноўвалася на нацыянальным прынцыпе. Калі дыскрымінацыя выступала, дык яна выцякала з рэлігійных матываў, што было характэрным у сярэднявеччы. Вялікае Княства Літоўскае Беларусы ўважалі за сваю нацыянальную дзяржаву, змагаліся за яе ды й самі сябе называлі Ліцьвінамі. Каб упэўніцца ў гэтым, дастаткова тут падаць вытрымку з прадмовы да *Літоўскага Статуту* 1588 году. У гэтай прадмове слова ў слова пішацца: «А калі якому із народаў сорам ня знаць сваіх правоў, дык гэта нам, бо гэтыя правы мы маем не на чужой мове, але на сваей уласнай мове». Думаем, што ня трэба даказваць таго, што Літоўскі Статут быў выдадзены на беларускай мове, а ягоны рэдактар — ведамы беларускі дзеяч Леў Сапега. Вялікае Княства Літоўскае разглядалася як славянская, беларуская дзяржава таксама й чужынцамі, у тым ліку і ў Маскоўшчыне. Напрыклад, апісваючы яго й Ліцьвіноў, Энэй Пікколоміні й адначасны папа Пій II сьветчыць у сваёй «Гісторыя Рерум», што «Літва мяжуе з Польшчай і мова народу славянская». Да гэтага высnаву прыйшлі таксама Ян Багемскі ў сваей працы «Омніум Гентіум Морес», выдадзенай у 1538 годзе; дырэктар Нюрнбэрскай Лаўрэньцеўскай школы Ян Кокслес Норык у сваей працы «Дэкастыкон», выдадзенай у 1511 годзе; дыплямат Венскага імпэратарскага дому Жыгімонт Гэрбэрштайн у сваіх «Маскоўскіх запісках», выдадзеных у 1549 і 1556 гадох, і іншыя. Дарэчы зазначыць, што падобны высnаў мы можам знайсьці ў «Хроніках» Яна Длугаша, Мацея Стрыйкоўскага, Аляксандра Гваніні, Быхаўскай хронiцы й іншых.

Калі навет уважаць, што прашчурамі старажытных Ліцьвіноў было адно з балтыцкіх племяў ці племя сяньняшніх Летувісаў, дык і гэта ня можа зьмяніць існасьці справы. У такім выпадку яны, і тым больш князі й баярства, з раньняй пары падлеглі працэсу беларусізацыі і, фактычна, тварылі складовую частку беларускага народу. Найбольш яскравае сьветчаньне гэтага мы можам знайсьці, напрыклад, у Сымона Буднага, у ягонай прадмове да «Катэхізісу» выданьня 1562 году, прысьвечанай віленскаму ваяводу князю Мікалаю Радзівілу Чорнаму й ягоным дзецям. У гэтай прадмове Сымон Будны пісаў: «З тае прычыны й дзеля таго, каб вы, шаноўныя князі, ня толькі захапляліся іншымі мовамі, але й сваю здаўна слаўную славянскую мову палюбіць маглі й ёю карысталіся далей. Слушным ёсьць, каб вы, шаноўныя князі, мову таго народу змаглі шанаваць, у якой вашыя прашчуры й бацькі здаўна ажыцьцяўлялі ўладу». Князі Радзівілы з крыві й косьці паходзілі зь Ліцьвіноў, аднак паводля Сымона Буднага, а, значыцца, і паводля іх самых, яны славяне-Беларусы.

Нарэшце, як ведама, і аснову Кіеўскай Русі паклалі Нарманы-варагі, аднак немагчыма цьвердзіць, што яна была нарманскай дзяржавай. Вось-жа з падобнай меркай трэба падыходзіць і да Вялікага Княства Літоўскага.

Бяспрэчна, сацыяльнае прыгнечаньне сялянства існавала і ў Вялікім Княстве Літоўскім. Але дзе яго не існавала? Былі й бунты сялян і ўцёкі, асабліва пасьля такіх бунтаў, прытым уцёкі ня так ў Маскоўшчыну, як на поўдзень Украіны. Аднак прыгон у Вялікім Княстве Літоўскім быў значна слабейшы як у Маскоўшчыне. Таму сьведамай нацяжкай зьяўляецца канцэпцыя пра тое, быццам у Маскоўшчыне можна было знайсьці сацыяльнае вызваленьне. Успомнім у сувязі з гэтым палітыку адносна сялянства Івана Грознага й ягонай апрычніны, калі ў змаганьні супраць баярства ўсе беды звальваліся на сялянства, якое або проста зьнішчалася, або выганялася й галоднымі этапамі сьціроўвалася за сваімі выгнанымі панамі, або передавалася гвалту апрычнікаў. Прыгадаем таксама сялянска-казацкія бунты й войцы ў Маскоўшчыне пачатку XVII стагодзьдзя. Не з раскошы ўзьнікалі гэтыя бунты й войны, і не з раскошы сялянства вітала зьяўленьне розных «Лже-Димитриев» і літоўска-польскага войска. Дый народ складаўся ня толькі зь сялянства, але і зь мяшчанства, з шляхты, якія ў Вялікім Княстве Літоўскім карысталіся свабодай і сацыяльнымі прывілеямі, у той час, як у Маскоўшчыне ўсе без выключэньня былі «холопами» маскоўскага цара.

Ідэя-ж царкоўнае вуніі нарадзілася не на Берасьцейскім сынодзе, але шмат раней і была абумоўлена шматлікімі прычынамі: упадкам Канстантынопалю; фактам зьяўленьня ў Вялікім Княстве Літоўскім двух веравызнаньняў — праваслаўя й каталіцтва; умяшаньнем у рэлігійныя справы Маскоўшчыны, што імкнулася выкарыстаць рэлігійныя непаладкі для сваіх палітычных мэтаў; разьвіцьцём рэфармацыі й контррэфармацыі. У такіх абставінах, як праўдзіва зазначае М. Прашковіч, трэба было шукаць нейкага разумнага выйсьця. Вунія, як яна ўяўлялася ейнымі ініцыятарамі, ня мелася стацца мастком да каталіцызму й тым больш да апалячаньня. Прынамся так яе разумелі праваслаўныя гіэрархі, што далучыліся да вуніі, і шматлікія палітычныя дзеячы Вялікага Княства Літоўскага. У спрыяльных палітычных умовах яна магла-б стацца тым ядром, якое рэлігійна й нацыянальна скансалідавала-б народ. Іншага характару пытаньне, якімі былі вынікі гэтае ідэі. З упадкам палітычнае незалежнасьці Вялікага Княства Літоўскага, з наступам Польшчы й Маскоўшчыны пачалі ўзмацняцца таксама наступ каталіцызму й супраціў праваслаўя. Вунія не дасягнула свае мэты й сталася аб'ектам нападаў і прыгнечаньня. У XIX стагодзьдзі яна была скасаваная ўказам расейскага цара.

Дарэчы, савецкай ідэялёгіі ў вацэне рэлігійнага жыцьця трэба было-б або заставацца нэўтральнай, або да ўсіх веравызнаньняў падыходзіць з аднолькай меркай. Для гэтай ідэялёгіі рэлігія наагул зьяўляецца «опіюмам для народу», і зь ёй вядзецца змаганьне. Таму недарэчным зьяўляецца факт, калі, напрыклад, у праваслаўі бачыцца раптам штосьці «прагрэсыўнае» й «нацыянальнае», а вуніяцтва разглядаецца ў якасьці ««рэакцыі» й «нацыянальнай зрады».. Нягледзячы на асабістыя сымпатыі ці антыпатыі да таго ці іншага веравызнаньня, такі падыход далёка не навуковы.

# Пытаньне Беларускай энцыкляпэдыі

Справа выданьня Беларускай энцыкляпэдыі неаднаразова закранаалася ў беларускай савецкай прэсе. У некаторых савецкіх рэспубліках нацыянальныя энцыкляпэдыі або ўжо выдадзеныя, або вядзецца праца над іхнай падрыхтоўкай. Бясспрэчна, сваю нацыянальную энцыкляпэдыю павінна мець і Беларусь. Але афіцыйнай пастановы пра выданьне Беларускай энцыкляпэдыі яшчэ ня прынята. Можна здагадвацца пра прычыны адставаньня Беларусі ў гэтай справе.

Перш за ўсё, што такое энцыкляпэдыя? Каротка кажучы, энцыкляпэдыя — гэта найбольш поўны збор ведаў. Беларуская энцыкляпэдыя павінна была-б быць таму найбольш поўным зборам ведаў пра Беларусь, творам, які адлюстроўваў-бы ў гістарычным разрэзе ўсе дасягненьні беларускага народу ў галіне навукі й мастацтва, дзе была-б прадстаўленая беларуская палітычная й сацыяльная гісторыя, беларускае права і гэтак далей. У Беларускай энцыкляпэдыі павінны быць найбольш поўна пералічаныя філёзафы, навукоўцы, пісьменьнікі, мастакі, палітычныя й грамадзкія дзеячы, якія выйшлі з нашага народу або мелі нейкае дачыненьне да Беларусі.

Беларускі народ на працягу свае гісторыі даў столькі выдатных постацяў ува ўсіх галінах творчага і грамадзка-палітычнага жыцьця, што нам мог- бы пазайздросьціць не адзін эўрапэйскі народ. Але няспрыяльныя палітычныя абставіны спрычыніліся да таго, што з вялізарнай культурнай спадчыны Беларусаў амаль ўсё «у капцах паснула, зельлем парасло...»

Пад гэтым моттам старэйшы навуковы супрацоўнік Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклёру Міністэрства культуры БССР Міско пісаў у газэце «Літаратура і Мастацтва».

«Беларускі народ пакінуў нашчадкам багацейшую і каштоўнейшую культурную спадчыну. На працягу стагодзьдзяў ён стварыў нямала навуковых працаў, твораў літаратуры і мастацтва. Многія зь іх гісторыкі выявілі, сабралі, апрацавалі і выдалі асобнымі кнігамі — «Дакуманты і матарыялы па гісторыі Беларусі». Значная колькасьць старажытных і рукапісных твораў апублікавана ў хрэстаматыях па беларускай мове і літаратуры, зьмешчана ў пэрыядычных выданьнях.

Аднак гэта толькі маленькая частачка культурнай спадчыны нашага народу. Тысячы-ж каштоўных твораў з розных галінаў творчасьці нашых продкаў і сёньня ляжаць някранутымі ў архівах Беларусі, Расеі, Украіны, Літвы і Польшчы. Яны ня вывучаныя, не сыстэматызаваныя, не расшыфраваныя і застаюцца недаступнымі ня толькі для шырокай грамадзкасьці, але і для дасьледнікаў. Каб пералічыць усе рукапісныя зборнікі — помнікі культуры, навукі, літаратуры і мастацтва нашага народу, — якія пакуль што ляжаць мёртвым грузам у архівах, трэба было-б выдаць цэлую кнігу.

А гэты каштоўны і ўдзячны для гісторыкаў, дасьледнікаў культуры, літаратуры і мастацтва нашага народу матарыял павінен быць апублікаваны.»

Толькі каб **пералічыць** адны старыя **рукапісныя** зборнікі беларускіх аўтараў, знойдзеныя ў архівах, трэба было-б выдаць цэлую кнігу. Гэтыя творы ня вывучаныя, часта ня выяўленыя іхныя аўтары, не ўдакладненыя біяграфіі аўтараў выяўленых. А гэтыя помнікі навукі й мастацтва, апача свае вялізарнае вартасьці дзеля пазнаньня культурнага разьвіцьця ў Беларусі, могуць быць каштоўным укладам і ў сусьветную культуру. І было-б недаравальным недаглядам, калі-б гэтыя творы й іхныя аўтары ня былі адзначаныя ў Беларускай энцыкляпэдыі.

Гэта самае тычыцца і старых беларускіх **друкаваных** твораў і іхных аўтараў. Як ведама, паводля колькасьці старадаўных беларускіх друкаваных кнігаў Беларусь стаіць на першым месцы сярод славянскіх народаў. Шмат друкаваных кнігаў пагінула, але шмат зь іх ляжаць параскіданыя й забытыя ў бібліятэках і архівах розных краінаў сьвету. А гэтыя культурныя здабыткі нашага народу таксама павінны заняць належнае месца на старонках Беларускай энцыкляпэдыі. Апошнім часам беларускія навукоўцы выявілі шмат ініцыятывы ў справе адшуканьня й вывучэньня твораў старадаўнай беларускай пісьменнасьці, але ў сваёй працы яны натыкаюцца на шмат перашкодаў. Партыйныя цэнзары дазваляюць выдавецтвам рэспублікі публікаваць толькі тыя працы з гісторыі Беларусі, якія адпавядаюць партыйнай гістарычнай дактрыне. А паколькі партыйная дактрына супярэчыць істарычнаму працэсу, які прайшла ў мінулым Беларусь, гістарычная навука на Беларусі ня можа дасюль разьвівацца нармальна.

Будучая Беларуская энцыкляпэдыя ня можа абмінуць гісторыі сацыяльных дачыненьняў на Беларусі й беларускай палітычнай гісторыі. У гісторыі культуры партыйныя ідэёлягі зрабілі ўжо некаторыя ўступкі гістарычным фактам. Старая беларуская літаратурная мова прызнаная беларускай, а не «рускай», як яе называлі пры Сталіне. Прызнаная піянэрская роля Беларусі ў пашырэньні друкарства на ўсходзе Эўропы. Партыйныя ідэёлягі пачалі больш талерантна ставіцца да факту цесных культурных сувязяў Беларусі з Заходняй Эўропай у мінулым, да факту пашырэньня на Беларусі заходніх культурных плыняў. Але партыйная ідэялёгія далей ваюе з фактамі, калі справа йдзе пра пытаньні сацыяльных дачыненьняў і палітычнага статусу Беларусі ў мінулым. У гэтых пытаньнях партыя за ўсякую цану трымаецца свае вялікадзяржаўніцкае догмы, што на ўсходзе Эўропы радзімай ідэяў сацыяльнай справядлівасьці й сацыяльнага працэсу магла быць і заўсёды была Расея, што імпэрыялістычныя заваёвы расейскіх цароў мелі быццам прагрэсыўнае значэньне для паняволеных народаў.

Але факты рэч упартая. А факты гавораць, што на Беларусі, асабліва ў часы Вялікага Княства Літоўскага, грамадзянам гарантавалася законам высокая, як на той час, ступень асабістых свабодаў, чаго ня было ў Маскоўскім княстве, што ў Беларусі дзеялі законы Літоўскага Статуту, заснаванага на перадавых нормах дзеючага тады ў заходняй Эўропе Рымскага права, што правы беларускіх феадалаў былі значна абмежаваныя, а прыгон быў зусім нязначны ў параўнаньні з тым, што дзеялася ў нашых усходніх суседзяў. Неаспрэчным фактам зьяўляецца таксама й тое, што, апрача, хіба, савецкага пэрыяду, Беларусь ніколі не цярпела такога разбурэньня, такога сацыяльнага й нацыянальнага прыгнёту, як пасьля заваёвы расейскімі царамі. Будучая Беларуская савецкая энцыкляпедыя траціла-б сваю вартасьць, калі-б яна сьцьвярджала адваротнае.

Пэрыяд Вялікага Княства Літоўскага і ранейшыя часы багатыя асьвечанымі й гуманнымі постацямі: У іхных шэрагах былі выдатныя грамадзкія й палітычныя дзеячы і ваенныя камандзіры, якіх нельга выкідаць зь беларускай гісторыі толькі таму, што, баронячы незалежнасьць свайго краю, ім даводзілася весьці працяглыя войны і супраць наступу расейскіх арміяў. Калі ў расейскіх энцыкляпэдыях знаходзіцца месца для Івана Грознага, Кутузава ці Суворава, дык у беларускай энцыкляпэдыі павінна знайсьціся месца для Эўфрасіньні Полацкай, Вітаўта Вялікага, князёў — Ягайлавічаў, Сапегаў, Агінскіх і сотняў іншых.

Пэрыяд беларускага адраджэньня XIX-га і пачатку XX-га стагодзьдзя даў таксама цэлую пляяду літаратараў, мастакоў, навукоўцаў, палітыкаў. З прычыны забароны беларускай мовы й беларускага друку шмат беларусаў аддалі свой талент для ўзбагачэньня навукі й культуры суседніх народаў. Беларускія савецкія дасьледнікі прысьвячаюць цяпер некаторым з гэтых нашых землякоў шмат увагі. Для прыкладу, у беларускай літаратуры дасьледваюцца духоўныя сувязі з родным краем Адама Міцкевіча й Манюшкі, але, нажаль, нічога або амаль нічога ня зроблена ў гэтым кірунку адносна Дастаеўскага або Глінкі. Энцыкляпэдыя дала-б няпоўнае ўяўленьне аб укладзе беларускага народу ў скарбніцу сусьветнай культуры, калі-б у ёй ня былі адзначаныя й такія волаты духу — нашы суродзічы. А беларусаў, якія тварылі на мовах нашых суседзяў, шмат.

Зрэшты, не гаворачы ўжо пра сотні нацыянальных дзеячоў, якія праявілі сябе ў часе рэвалюцыйных падзеяў, пры цяперашнім кірунку савецкай гістарычнай навукі ў Беларускую энцыкляпэдыю не маглі-б хіба трапіць і сотні выдатнейшых Беларусаў савецкай арыентацыі, вынішчаных Сталінам і дасюль нерэгабілітаваных. Бяз імёнаў і творчасьці гэтых нацыянальных і савецкіх культурных работнікаў і палітыкаў вобраз Беларусі апошняга пэрыяду быў-бы недаравальна зьбеднены.

Узяўшы ўсё гэта пад увагу, паўстае пытаньне мэтазгоднасьці выданьня энцыкляпэдыі ў сучасны мамэнт. На нашу думку, трэба спачатку перамагчы пералічаныя намі партыйныя забароны й перашкоды, каб энцыкляпэдыя была тым, чым яна павінна быць – поўным і аб'ектыўным гістарычным даведнікам пра ўсе праявы жыцьця нашага народу.

**А. Залескі**

# Ангелец пра дзеячоў БНР

(Заканчэньне з 3-ай бач.)

— мяжа Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі, ад якой адрэзана ўся ўсходняя Беларусь...»

«Ён (гэта значыць Душ-Душэўскі) мог расказаць пра Беларусь цэлымі гадзінамі» — працягвае МакКальлюм Скотт. Ня было тэй тэмы, якую-б не закрануў Душ-Душэўскі. Ён гаварыў і пра мінулае Беларусі і пра пляны на будучыню; расказваў пра багатую народную творчасьць беларускага народу й пра неразумную палітыку польскага ўраду адносна Беларусі. Ангельскі аўтар падае цікавыя весткі, якія ён атрымаў ад Душ-Душэўскага пра ведамы перапіс насельніцтва Віленшчыны й Гарадзеншчыны, праведзены нямецкімі ўладамі ў 1916 годзе, і паводля якога Беларусы раптам «зьніклі» з гэтых тэрыторыяў. Перапіс гэты шырока выкарыстоўваўся потым польскімі нацыяналістымі падчас іхнай спрэчкі зь літоўцамі за Вільню. Душ-Душэўскі расказаў МакКальлюм Скотт'у пра мэтады ціску й застрашваньня, якімі карысталіся польскія ўрадоўцы ў адносінах да беларускага жыхарства пры ўпісваньні нацыянальнасьці.

Аўтар кнігі «Па той бок Балтыцкага Мора» апісвае таксама, як ён, не арыентуючыся дакладна ў усходня-эўрапэйскіх справах, пачаў гаварыць пра сварку паміж палякамі й літоўцамі за некаторых нацыянальных герояў. «Палякі, — піша, — папракалі літоўцаў, што яны, маўляў, рэнэгаты, бо некаторыя з найвыдатнейшых палякаў паходзілі зь Літвы, як паэта Адам Міцкевіч, нацыянальны герой Касьцюшка і іншыя. Літоўцы-ж з свайго боку высьмейвалі палякаў за тое, што найбольшыя іхнія героі былі літоўскага паходжаньня. Абодвы бакі прэтэндавалі і на паэта і на патрыёта і адначасна спаборнічалі ў пабудове помнікаў і называньні вуліцаў іхнымі імёнамі».

Душ-Душэўскі слухаў усё гэта і штораз больш станавіўся нецярплівым. Уканцы выбухнуў: «Ні адны, ні другія ня маюць ніякага права ні на паэта, ні на патрыёта! Гэтак Міцкевіч, як і Касьцюшка былі Беларусамі. Яны нарадзіліся ў Беларусі, выгадаваліся на беларускім хлебе, маюць беларускія прозьвішчы й паходзяць зь беларускіх сем'яў. Міцкевіч пісаў таксама й па-беларуску, але галоўныя свае творы напісаў па-польску, бо ў той час ня было другіх адукаваных людзей».

Разьдзел пра Беларусь МакКальлюм Скотт канчае біяграфічнымі дадзенымі пра Душ-Душэўскага і Вацлава Ластоўскага і пра іхную адданую працу на карысьць беларускага народу. Паводля ангельскага аўтара, Душ-Душэўскі меў падрыхтаваныя да друку падручнік батанікі й манумэнтальную працу зь гісторыі Беларусі.

Як бачым, у вадрозьненьне ад савецкіх аўтараў, якія ў творцах Беларускай Народнай Рэспублікі бачаць толькі здраднікаў, авантурыстых і агентаў «імпэрыялістычных» дзяржаваў, — сумленныя і аб'ектыўныя людзі Захаду, як напрыклад, цытаваны намі ангельскі публіцысты і пісьменьнік МакКальлюм Скотт, які меў нагоду сутыкнуцца зь імі асабіста і пазнаць іх, бачыў у іх палымяных патрыётаў, верных сыноў беларускага народу, якія ўсё сваё жыцьцё аддалі беларускай нацыянальнай справе.

**В. Сянкевіч**

# Свае й чужыя...

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

му пасьляваенных капіталаўкладаў у Беларусі і ў іншых рэспубліках, падзяліць гэтую суму на колькасьць насельніцтва рэспублікаў, і мы пераканаемся, што, паводля сумы капіталаўкладаў на душу насельніцтва, Беларусь стаіць на адным з апошніх месцаў сярод іншых рэспублікаў СССР. Вось гэтай дыскрымінацыйнай палітыкай Масквы ў дачыненьні да Беларусі і тлумачацца ў вялікай меры нястачы ў забясьпячэньні беларускага жыхарства жыльлём, паслугамі, прадметамі й таварамі першай патрэбы.

Масква больш шчодра (хоць прапарцыянальна значна менш, як для РСФСР) адпускае сродкі на фінансаваньне разьвіцьця цяжкой прамысловасьці на Беларусі, бо яна цалкам падпарадкаваная Маскве, прадукцыя гэтай галіны прамысловасьці амаль цалкам ідзе за межы рэспублікі й ніякага беспасярэдняга ўплыву на павялічэньне рэспубліканскага бюджэту ці забясьпячэньня мясцовага насельніцтва ня мае. Увесь прыбытак ад рэалізацыі прадукцыі гэтай прамысловасьці ідзе ў Маскву.

Прадпрыемствы мясцовага значэньня больш падпарадкаваныя рэспубліканскім гаспадарчым органам і прызначаныя для забясьпячэньня мясцовых патрэбаў. І зусім натуральна, што нават найбольш «здысцыплінаваныя», верныя маскоўскім дырэктывам рэспубліканскія кіраўнікі нейдзе ў глыбіні душы – ці то із-за «няізжытых» асабістых «уласьніцкіх ухілаў», ці пад ціскам грамадзкай думкі, ці зь нейкіх іншых «гуманных» меркаваньняў — хутчэй гатовыя падтрымаць «сваё» прадпрыемства, свае інтарэсы, чымся чужыя.

Масква з гэтым ня лічыцца і маніпулюе справамі, як хоча. Але ўжо той факт, што ў такіх умовах пачуцьцё «свайго» у нацыянальным маштабе ня зьнікае — абнадзейвае на будучыню.

**М. Кручкоўскі**

*Масей Сяднёў*

# РАМАН КОРЗЮК

## (*Працяг*)

Усіх гэта нямала зьдзівіла, і каб ня Дзічкоўская, узьнятыя кілішкі, напэўна, апусьціліся-б, але яна, рашчырванелая і зіхатлівая, звонкім голасам, нібы ў атаку крыкнула:

— За Кастрычнік!

Выпілі за Кастрычнік гучна, але настрой адразу апаў — Мялешка выйшаў. А гэта нешта значыла. Ларыса хацела затрымаць яго, угаварвала застацца, але ён апрануўся і, не разьвітаўшыся навет зь ёю, пакінуў манастыр. Калі ўсіх гэты факт трохі ацьвярозіў, дык на Дзічкоўскую ён ня меў ніякага ўплыву — яна налівала Раману то гарэлку, то віно, тулілася да яго і была як-бы рада, што Мялешка сыйшоў з воч. Пятро Шыракоў з Басяй узяліся круціць вальс Цыпінай. Як і заўсёды, Пятрок граў на губы. Калі завялі патэфон, ён сказаў, што ягоная «партніха» (г. зн. партнэрка) прывыкла да ягоных жывых гукаў і пад патэфон танцаваць ня ўмее. Жарты Шыракова, ягоны нейкі няўлоўны цынізм сьмяшылі ўсіх, і хутка ахвотнікаў танцаваць знайшлося досыць. Яначкін пайшоў з Ларысай, Аўсеева з Фомкай Марціновічам, Шкляр з Каплеўскім. Дзічкоўская яшчэ сядзела з Раманам за сталом і падкладвала яму яду. Шарамецьцеў гаварыў з Лагоўскай. Пар набралася гэтулькі, што ня было дзе нат кроку ступіць, і пары гэныя не танцавалі, а шараваліся. І гэтага ўжо хапала.

Селі зноў за стол. Пітва хапала, не хапала толькі закусі.

— Досыць вам есьці! — зьвярнулася Роза Шкляр да Рамана і Дзічкоўскай: — давайце вып'ем! А то як з галоднага краю вы.

— Канешне-ж, з галоднага. Я кармлю Рамашачку, каб ён дужэйшым быў. А то зьнямогся, бедны, што сягоньня ня змог нат партрэту несьці. Дзіва што...

— Будзе яму яшчэ за гэты партрэт. Мялешка нездарма выйшаў. Ну, за што вып'ем? — папыталася Роза.

— На гэты раз за прыгожую р о з а ч к у, — прагаласіла тост Дзічкоўская.

— Брава! Брава! П'ем за р о з а ч к у!

Пілі шмат. Дзічкоўская, нарэшце, выйшла з Раманам на сярэдзіну пакою і закружылася. Яны танцавалі гэтак зграбна, прыгожа, далікатна і ўтульна, што выклікалі зайздрасьць, і ніхто ня сьмеў далучацца да іх. Усе толькі любаваліся імі. Дзічкоўская шчыльна прыпадала да Рамана і ўся сьвяцілася. Ніжэйшая за Рамана, яна як-бы была пад ім і толькі адкідвала галаву, каб зазірнуць яму ў вочы.

— Хопіць, даражэнькая, зь цябе. Дай цяпер мне твайго кавалера, — падыйшоўшы блізка да іх, нечакана для ўсіх сказала Лагоўская. Гэта было так няспадзявана, што Дзічкоўская апешыла і без ніякіх выбрыкаў, на якія яна была здольна, уступіла ёй Рамана. Каб гэта падыйшоў да яе з такім намерам хто-небудзь іншы, яна ні за што не зрабіла-б гэтага, хаця-б той нехта паміраў.

Раман зрабіў адзін круг з Лагоўскай. Тады да яго пачалі падыходзіць усе дзяўчаты па чарзе, сьмяючыся і жартуючы. Не пасьмела толькі падыйсьці да яго Ларыса, але Раман сам узяў яе і прайшоўся зь ёю. Дзічкоўская назірала, аднак, за гэтым нядоўга. Схапіла Рамана за руку і пацягнула за стол.

— Хопіць з вас! Рамашачка цяпер мой, — сказала яна: не здарма-ж я карміла яго і паіла.

— Каб ведала Валя Камоцкая, было-б табе «мой», — кінула Шкляр. — Не падзялілі-б!

— Рамашачка, што ты думаеш пра дзяльбу? Падзялілі-б? Ці ты непадзельны?

— Так, я непадзельны. Сапраўдны.

Усе зарагаталі. Корзюк, відавочна, ужо п'янаваты, выцяг Дзічкоўскую з-за стала, але танцаваць яна не хацела ў сваім пакоі, а папрасіла Корзюка пайсьці на танцы ў галоўны корпус, дзе, гаварыла яна, грае сапраўдная аркестра і хапае прастору.

— А й сапраўды, чаму-б нам не пайсьці туды ўсім? — Шкляр гэта сказала, як-бы не хацела, каб Дзічкоўская выйшла з Раманам адна.

У Галоўны корпус на танцы прыйшлі ўсе, апрача Розы Шкляр з Каплеўскім — яны не дайшлі. Навет Шыракоў з Басяй прыцягнуліся.

Танцы адбываліся ў падвале корпусу, на паркетнай пляцоўцы. Гэта была ніштаватая пляцоўка з некалькімі слупамі пасярэдзіне, вакол якіх кружыліся пары, і такім парадкам утваралася столькі самастойных акружынаў, колькі было гэтых слупоў. Пляцоўка ня была добра асьветленай, але гэта нікольк не замінала — наадварот. На пляцоўку прыходзілі ўсе калідоры і тут канчаліся. Цяпер яны былі поўныя людзей, бо-ж на танцы прыйшлі студэнты аж з трох інстытутаў: пэдагагічнага, мэдычнага і наргасу. Былі і з БДУ. Але найболей кідаліся ў вочы — і навет сваёй колькасьцяй — вайсковыя. Скуль яны сюды папрыходзілі, ніхто дакладна ня мог-бы сказаць. Досыць таго, што яны былі тут галоўнай сілай. Яны былі ня толькі ў вайсковай форме, а і з шпорамі, і цяпер гэтыя шпоры зьвінелі тут нейкім даўно мінулым, аднак, гэта не перашкаджала ім знаходзіць водгук у дзявочым сэрцы. Студэнты былі адсунутыя, як кажуць, на задні плян.

Танцавала няшмат. Найболей глядзела. Але Дзічкоўская, падхопленая, як на крыльлях, музыкай, звонам і тлумам, цягнула Корзюка ў круг, моцна сьціскаючы ягоную руку сваёю ліпкай. Гралі вальс і танцавалі, хто толькі хацеў, умеў ці ня ўмеў. Аднак вальс скончыўся і зайгралі факстрот. Хоць-бы адна пара выйшла, — ніхто ня ўмеў. А можа хто трохі і ўмеў — сароміўся выходзіць. Ды ня гледзячы на гэта, аркестра грала. Ад таго, што пляцоўка была пустой, сароміліся ўсе, навет і тыя, хто не танцаваў наагул. Прыціхлі й вайсковыя. Замоўклі іхныя шпоры.

І вось у гэтай маўклівасьці і напружанасьці выходзіць Дзічкоўская з Раманам — памалу, ні на кога ня гледзячы, саромячыся і быццам няўпэўнена. Для ўсіх гэта было збаўленьнем і выйсьцем з несамавітасьці. У першы мамэнт навет боязна было падумаць, што танец можа няўдацца у іх. Але ўпэненасьць, зь якой адразу павёў Дзічкоўскую Раман, заспакоіла ўсіх. Дзічкоўская і Раман танцавалі факстор так натхненна, лёгка і нявымушана, што, гледзячы на іх, станавіўся зразумелым сам танец, ён захапляў усё болей і болей нейкім сваім нявымоўным чарам. Дзічкоўская — фігурыстая і ў зграбнай сукенцы, што выгадна і спакусна аблягала яе, Корзюк — у сваім штодзённым гарнітуры, але прыгожы, стройны, гнуткі — заваражылі ўсіх сваім зьяўленьнем на гэтай пляцоўцы. Панёсься шэпат у грамадзе. «Хто і адкуль яны такія?». Зьдзіўленьне і захапленьне. А Дзічкоўская і Корзюк, быццам забаўляючыся, паслухмяныя рытму, у сваёй чароўнай хацьбе адчувалі гэтае захапленьне грамады і яшчэ болей уваходзілі

# Завайстрэньне нацыянальнага пытаньня ў СССР

У савецкай цэнтральнай і рэспубліканскай прэсе апошнім часам часта публікуюцца артыкулы з нападамі на «нацыяналістычныя» ўхілы, на «буржуазны нацыяналізм» і асабліва на дзейнасьць палітычнай эміграцыі з падсавецкіх краінаў, якую абвінавачваюць у пашырэньні сваіх уплываў на грамадзкасьць на бацькаўшчыне. Цэнтральны тэарэтычны орган КПСС, часапіс «Коммуніст» у 16 нумары зь мінулага году пісаў:

«Цяпер, калі міжнародная рэакцыя намагаецца ўбіць клін у дачыненьні паміж народамі нашай краіны, выкарыстоўваючы дзеля гэтай мэты буржуазных нацыяналістых, выкінутых за борт гісторыі і аселых у гнёзьдзішчах сваіх імпэрыялістычных гаспадароў за граніцай, неабходна як зрэнку вока берагчы дружбу народаў СССР, актыўна супрацiўляцца найменшым тэндэнцыям да нацыяналістычнай абмежаванасьці й выключнасьці, устанаўленьню й штучнаму насаджэньню пад маркай «нацыянальных тэндэнцыяў» адсталых звычаяў і нораваў, якія перашкаджаюць камуністычнаму будаўніцтву...»

А вось цытата з 18-га нумару таго-ж «Коммуніста» за 1965 год:

«Імпэрыялістыя выкарыстоўваюць любыя сродкі, каб паслабіць узрастаючы ўплыў камуністычнай ідэялёгіі на масы. Яны трацяць сотні мільёнаў даляраў на арганізацыю прапагандовых цэнтраў... Буржуазныя ідэёлягі ўсяляк намагаюцца захапіць у ідэйны палон няўстойлівых людзей, выклікаць сярод іх сумлевы, няверу ў ідэалы камунізму, падарваць і ажывіць перажыткі мінулага, асабліва нацыяналістычныя забабоны... Мы ня можам ня ўлічваць таго, што ў сваіх ідэялягічных дывэрсіях імпэрыялістыя імкнуцца спэкуляваць на наяўных цяжкасьцях, выкарыстоўваць кожны наш промах і недахоп».

Пасьля гэтых трывожных сьцьверджаньняў і дырэктыўных наказаў маскоўскага «Коммуніста» загаварыла й рэспубліканская прэса. Ува ўзьнятай кампаніі не адстае, а магчыма нават высоўваецца наперад, партыйная прэса БССР. Прыкладам гэтага можа быць артыкул, апублікаваны ў партыйна-дзяржаўным органе БССР газэце «Звязда» з 29-га студзеня сёлета і паўтораны ў газэце «Літаратура і Мастацтва» з 1-га лютага. Артыкул меў загаловак «Іх прафэсія — здрада». Большая частка артыкулу прысьвечана нападам на супрацоўнікаў Беларускай рэдакцыі Радыя «Свабода».

Як даведваемся, супрацоўнікі Беларускай рэдакцыі Радыя «Свабода» з прычыны зьяўленьня гэтых артыкулаў правялі перад мікрафонам радыястанцыі гутарку наступна зьместу:

**Голас I:** «Аўтар артыкулу ў газэтах «Звязда» і «Літаратура і Мастацтва» Стук пачаў свае напады на беларускую эміграцыю і ў прыватнасьці на супрацоўнікаў Беларускай рэдакцыі Радыя «Свабода» з таго, што ў сваіх выступленьнях у прэсе й праз радыё эмігранты, маўляў, «хаваюцца» за псэўданімамі. А раз так — значыць у іх нячыстае сумленьне, яны нечага баяцца. Разьвіваючы сваю «тэорыю» далей, Стук выводзіць: эмігранты хаваюцца, бо яны злачынцы і баяцца пакараньня. Хто крыху разьбіраецца ў гэтых справах, бачыць, што рытарычная канструкцыя Стука фальшывая й зласьлівая. Праўдзівае ў ёй толькі адно: эмігранты сапраўды часта ўжываюць псэўданімы, хоць і не заўсёды. Пашто псэўданімы?

Падсавецкаму грамадзяніну гэта лепш зразумела, як каму іншаму. Нашы слухачы добра ведаюць, як яшчэ зусім нядаўна савецкія грамадзяне, якія мелі сваіх родзічаў заграніцай, уважаліся ўладамі людзьмі другой катэгорыі, маглі быць у кожны мамэнт арыштаваныя, высланыя ў канцлягер або зьнішчаныя фізычна. Гэтая небясьпека існавала ня гледзячы на тое, што савецкія законы фармальна забаранялі прыцягваць да адказнасьці чалавека за дзеяньні іншых сяброў ягонай сям'і ці сваякоў. Цяпер **просты** перасьлед за сваякоў заграніцай спынены, але **ўскосны** застаецца. Савецкаму грамадзяніну, які мае сваіх крэўных заграніцай, цяжка або й немагчыма атрымаць дазвол на падарожжа ў замежныя краіны, атрымаць лепшую працу або заняць якое-небудзь адказнае становішча.

Вось дзеля гэтага, каб ня спрычыняць лішніх цяжкасьцяў сваім родным на Бацькаўшчыне, — толькі дзеля гэтага эмігранты часта паўстрымоўваюцца ад лішняга афішаваньня сваімі прозьвішчамі. І зусім зразумела, чаму савецкім адмысловым органам так не падабаюцца псэўданімы.

**Голас II:** Дарма «Зьвязда» й «Літаратура і Мастацтва» шукаюць сярод эмігрантаў ваенных злачынцаў і злачынцаў супраць людзкасьці. Не беларускі-ж народ, а ўжо тым больш не цяперашнія беларускія палітычныя эмігранты, вінаватыя за пачатак Другой сусьветнай вайны. Пачаў яе Гітлер пры актыўнай падтрымцы Сталіна. Прыгадаем сакрэтную ўмовы Молатава-Рыбэнтропа. На Захадзе злачынцаў не хаваюць. У Заходняй Нямеччыне, напрыклад, гітлераўскіх ваенных злачынцаў адшукоўваюць і судзяць бесьперапынна ўжо на працягу 20 год. А вось сталінскія злачынцы й сёньня займаюць адказныя становішчы на ўсіх ступенях партыйнага й дзяржаўнага апарату.

**Г. I:** Прыгадаем, як Сталін хваліўся Чэрчылю ў Ялце, што адна калектывізацыя сельскай гаспадаркі каштавала народам Савецкага Саюзу 10 мільёнаў чалавек. Гэта, можна сказаць, сапраўдная вайна супраць уласнага народу. Сталін, каб і хацеў, ня мог-бы адзін вынішчыць 10 мільёнаў людзей. Дапамагаў яму ў гэтым вялізарны апарат тэрору. І ніводзін з гэтых злачынцаў ня стаў яшчэ перад судом. А масава вынішчалі ня толькі сялянства. Вынішчалі інтэлігенцыю, работнікаў. Нашы слухачы добра ведаюць, якія спусташэньні спрычынілі сталінскія чысткі ў нас ў Беларусі. У савецкай прэсе дазволена гаварыць толькі пра пару дзесяткаў важнейшых камуністых, ваенных камандзіраў, культурных работнікаў, вынішчаных на Беларусі пры Сталіне. А **мільёны** ахвяраў гэтага тэрору прамоўчваюцца.

Тымчасам, на маю думку, грамадзтва павінна памятаць пра страхотныя вынікі гэтага тэрору і павінна старацца рабіць захады, каб, – калі ўжо і ня ўдасца прыцягнуць да адказнасьці вінаватых за злачынствы, – дык каб прынамся не дапусьціць да паўтарэньня такой самаволі й беззаконнасьці. Аб гэтым мы гаворым у нашых перадачах, каб пра гэта ведала й маладое ды падрастаючае пакаленьне. Я ўважаю, што гэта адно з нашых заданьняў. І гэта, бясспрэчна, не падабаецца былым сталінскім паплечнікам, якія часам і сёньня любяць пахваліць заслугі сталінскіх чакістых. І таму яны стараюцца зваліць віну, як кажуць, з хворай галавы на здаровую.

Газэты «Зьвязда» і «Літаратура і Мастацтва» робяць закід супрацоўнікам Беларускай Рэдакцыі Радыя «Свабода», гэта значыць нам, што мы, маўляў, неапраўдана прысвойваем сабе навуковыя тытулы, выдаём сябе за экспэртаў у пытаньнях эканомікі й культуры Савецкай Беларусі, што на аснове адзіночных фактаў, падаваных у савецкай прэсе, робім фальшывыя абагульненьні пра агульнае палажэньне ў Беларусі.

**Г. II:** Калі ходзіць пра навуковыя тытулы, дык ніхто з нас, наколькі я прыгадваю, імі ня злоўжывае. Бывае што на гістарычныя тэмы піша кандыдат гістарычных навукаў або на літаратурныя тэмы гаворыць кваліфікаваны літаратуравед. Гэта практыкуецца ўсюды, і я ня бачу падставаў, чаму-б мы павінны былі унікаць падваньня кваліфікацыі аўтараў.

Г. I: Калі ідзе пра закід, што мы выдаём сябе за вялікіх экспэртаў, дык гэта проста выдумка. Нашы слухачы ведаюць, што ў нашых праграмах мы гэтага тэрміну ў дачыненьні да нас ніколі ня ўжывалі. Каб гаварыць пра справы ў Савецкай Беларусі, ня трэба быць вялікім экспэртам. Усе мы выйшлі з Беларусі, жылі пад савецкай уладай. Цяпер нам даступныя амаль усе савецкія выданьні, каб магчы, як кажуць, далей трымаць руку на пульсе ўсяго падсавецкага жыцьця.Да гэтага — мы мелі магчымасьць пазнаць жыцьцё ў заходнім сьвеце і гэта дае нам змогу рабіць параўненьні з жыцьцём на Бацькаўшчыне пад камуністычным рэжымам. Нашы слухачы напэўна згодзяцца з намі, што магчымасьць такога параўнаньня вельмі важная для правільнай ацэны палажэньня. Нашы суродзічы на Бацькаўшчыне, нажаль, такой магчымасьці ня маюць: падарожжы заграніцу вельмі абмежаваныя, савецкія крыніцы інфармацыі былі й застаюцца груба тэндэнцыйнымі калі ідзе пра насьвятленьне палажэньня ў вонкавым сьвеце. У сілу вось гэтых абставінаў, нам здалёк часам лепш відаць, што робіцца на Бацькаўшчыне, чымся нашым суродзічам дома, хоць і гучыць гэта, магчыма, парадаксальна.

**Г. II:** Гэта адна з прычынаў чаму мы прысьвячаем шмат увагі нашым беларускім праблемам. Адна, але не адзіная. Ня гледзячы на пэўную дэсталінізацыю савецкага рэжыму, далёка ня ўсе беларускія нацыянальныя праблемы, ня ўсе беларускія гаспадарчыя й культурныя справы можна абмяркоўваць на Бацькаўшчыне на публічных сходах ці ў прэсе. Вось мы й стараемся запоўніць гэты прагал, і спадзяемся, што гэтым дапамагаем нашым суродзічам разабрацца ў сытуацыях, якія часта сьведама заблытвае партыйная прапаганда.

**Г. I:** Цьвярдзім толькі тое, у чым абсалютна ўпэўненыя. Што-б ні гаварыў аўтар артыкулу ў «Зьвязьдзе» і «Літаратуры і Мастацтве» Стук, ён напэўна й сам добра ведае, што мы маем рацыю, калі цьвярдзім, што скалектывізаваная сельская гаспадарка Беларусі топчацца на месцы, што калгасная сыстэма сябе не апраўдала. Мы зьвяртаем увагу нашых суродзічаў, што Масква вывядзе мала фінансавых і матэрыяльна-тэхнічных сродкаў на патрэбы прамысловага й культурна-бытавога будаўніцтва на Беларусі. І абгрунтоўваем гэта канкрэтнымі дадзенымі. Мы крытыкуем савецкі палітычны, гаспадарчы й культурны цэнтралізм, бо перакананыя, што дэцэнтралізацыя неабходная для лепшага функцыянаваньня гаспадаркі, для разьвіцьця нацыянальнай культуры і для задаволеньня маральных патрэбаў беларускай нацыі. Мы стараемся зьвярнуць увагу нашых слухачоў на згубныя вынікі партыйнай русыфікацыйнай палітыкі ў школьніцтве Беларусі, у выдавецкай справе, у дзяржаўным апараце і гэтак далей. Мы ўважаем не нармальным, што школьныя падручнікі й акадэмічныя выданьні пра гісторыю нашага краю далей засьмечаныя недапушчальнымі выкрыўленьнямі й фальшаваньнямі гістарычных фактаў, і пра гэта мы гаворым у нашых перадачах. Мы зьвяртаем увагу нашых слухачоў і на тое, што колькасьць насельніцтва Беларусі (у мірны час) амаль не павялічаецца,і якія катастрафальныя вынікі можа гэта мець для будучыні нашага народу.

Ніхто не запярэчыць, што гэтыя праблемы сапраўды існуюць, што яны жыцьцёва важныя, што пра іх трэба гаварыць, трэба шукаць іхнай разьвязкі. На разьвязаньне гэтых праблемаў мы ня маем нейкіх **стандартных** рэцэптаў, і мы такіх рэцэптаў не падаём. Мы выказваем толькі нашае перакананьне, што супольным высілкам нашага народу, у супрацоўніцтве зь іншымі народамі СССР, справу можна павярнуць на лепшае.

**Ю. С.**

# Фэстываль злачынцаў

Апошнім часам у Савецкім Саюзе, у тым ліку і ў Беларусі, разгарнулася кампанія ўсхваленьня чэкістых і наагул органаў дзяржаўнай бясьпекі.

Нядаўна ў газэце «Літаратура і Мастацтва» я пабачыў наступнае паведамленьне: «Прэм'ерай мастацкага кінафільму «Як вас называць» пачаўся 28-га лістапада ў Менскім клюбе імя Дзяржынскага кінафэстываль, прысьвечаны героям-чэкістым. У час фэстывалю, які праходзіць ўва ўсіх кінатэатрах нашай рэспублікі, гледачы ўбачаць больш дваццаці мастацкіх і хранікальна-дакумантальных фільмаў аб верных сынах радзімы — чэкістых. Сярод іх яшчэ адзін фільм — „Гульня бяз правілаў"».

Чытаў я гэтую вестку раз, другі ды вачом ня верыў. Няўжо, думаю, гэта праўда? Няўжо партыйнае кіраўніцтва настолькі крывадушнае, каб аж так зьдзеквацца над нашым народам? Колькі бо сьлёз, колькі гора й цярпеньня зьвязана са словамі «чэкісты», «энкавэдысты», МВД! Колькі найлепшых сыноў беларускага народу загінула з рук тых, каго цяпер залічаюць у героі, пра якіх паказваюць мастацкія фільмы і якіх уважаюць вернымі сынамі радзімы! Гучыць усё гэта проста жахліва, зламысна й парадаксальна. А парадаксальна таму, што адначасова з паказваньнем народу фільмаў пра «герояў-чэкістых», у сучаснай беларускай літаратуры сустракаем такія вось жудасныя малюнкі (цытую з аповесьці Аляксея Кулакоўскага «Расьце мята пад акном», надрукаванай у першым нумары часапісу «Полымя» за гэты год:

«... Не пасьпела дзяўчына вярнуцца на сваё месца, як у калідорныя дзьверы, якія відны былі з пакоя, нехта патрабавальна пастукаў. Гаспадыня пакінула свайго прымаку і пабегла адчыняць.

Увайшлі тры чалавекі. Нікога гэта асабліва ня зьдзівіла, бо ўсе ведалі, што гаспадыня гэтай, быццам няпрыкметнай, кватэркі мае вельмі шырокі круг знаёмых. Аднак яна пакуль што не запрашала новых гасьцей у вясельны пакой, а тапталася каля іх неяк панура і разгублена.

— Нам бы тут Высоцкага, сказаў адзін з тых, што прыйшлі, чалавек ўжо ў гадох з пукатым жывоцікам пад чорным плашчом.

— Я Высоцкі, — сказаў Леанід і ўстаў. — Прашу, таварышы, распранайцеся, будзьце гасьцямі!

— Не, мы хочам папрасіць вас! — сказаў чалавек з жывоцікам, крыва ўсьміхнуўся і кіўнуў рукой на кухню...

Калі Леанід падышоў туды, чалавек расшпіліў верхнія гузікі плашча, дастаў з кішэнькі вайсковага кіцеля чырвоную кніжачку і падаў Высоцкаму. Той узяў, глянуў на вокладку і, нібы апёкшы ёю рукі, пасьпешна вярнуў.

— Мелася на ўвазе, — ўсё з тою крывою ўсьмешкаю загаварыў чалавек, — што разгорнеце сяю кніжачку і ўбачыце, што ў сярэдзіне. А там вось што!.. — Ён адхіліў вокладку з пазалочанымі літарамі і выняў паперку з трыма размашыстымі подпісамі, выразным штампам і пячаткай. — Я сажалею, што ў такі час прышлося... Но... Служба, знаеце. Вяшчычкі тут у вас, кніжачкі, цятрадкі?.. Зьбірайце!

(Заканчэньне на 8-ай бач.)

ў сваю ролю. Гледзячы з боку на іх, думалася, што ў сваім датыкненьні яны мучацца, шчасьлівыя і пакутныя, шукаючь зьшчэньня нязьшчанага ў рытмічным аддаленьні і наближэньні. Гэтым яны заражалі другіх, і тое, што перажывалі яны, дзіўным спосабам перадавалася другім. Яны выросталі ў вачох другіх у герояў, у казку, якой нехапала у жыцьці, ім зайздросьці, іх ідэялізавалі і хацелі быць такімі, як яны. Невядома, колькі-б яшчэ іграла аркестра, каб Раман схіленьнем галавы не падзякваў аркестрантам. З сашчэпленымі рукамі Дзічкоўская і Корзюк пайшлі на сваё ранейшае месца. Трывала яшчэ часіна маўкліні .Воплескі раздаліся тады, калі Раман і Дзічкоўская сталі і павярнуліся тварам да кругу. Здавася, што пасьля гэтага ня ўзновяцца танцы наагул і змоўкнуць назаўсёды шпоры. Але з грамады выступіў нейкі лейтэнант — досыць прыстойны на выгляд — і зычным голасам не папрасіў, а скамадваў сыграць вальс.

У вальс налезла, як вакунёў у сетку.

— Вальс-адбіяны! — скамандваў той-жа лейтэнант і хуценька падыйшоў да Рамана з Дзічкоўскай, што вальсавалі недалёка ад яго. Дзічкоўская моцна сьціснула Раманаву руку і заставалася зь ім.

— Вальс-адбіяны! — яшчэ грамчэй крычэў лейтэнант, ідучы ўсьлед за Дзічкоўскай і Раманам. Усе глядзелі на лейтэнанта.

— Вальс-адбіяны, грамадзянін! Вы чуеце, ці не? Адпусьцеце барышню!

Раман з Дзічкоўскай яшчэ хутчэй закружыўся вакол слупа. Але лейтэнант не адступаў ад іх.

— Жыва!

— Ці нельга-б без каманды, таварыш лейтэнант? — спыніўся, нарэшце, Корзюк, трымаючы за талію левай рукой Дзічкоўскую.

— Па тое я й камандзір, каб камандаваць, — і лейтэнант схапіў і пацягнуў да сябе Дзічкоўскую. Тая скрыкнула. Раман правай рукой няўгледна дзыгнуў у твар лейтэнанта. Лейтэнант, перакруціўшыся, замахнуўся таксама, але, не пасьпеўшы ударыць Рамана, заекатаў, адкінуты моцным ударам нагі ў жывот.

Падскочылі ваенныя. Вырасла і студэнцкая сьцяна. Аркестра перастала граць. Дзічкоўская цягнула Рамана ў гурт, але ён не паддаваўся і ўсё стаяў на месцы.

— Даць ім дагаварыцца на двары, а ня тут- — хтосьці гукнуў з грамады.

Раман Корзюк усё болей і болей з двух бакоў заціскаўся натоўпам. Лейтэнант кідаўся да яго, але ня мог раськідаць грамады. Цяжка было зразумець, што дзеелася. Зьнекуль нахапіўся загадчык катэдры:

— Я адказны за танцы і прашу зараз-жа разыйсьціся. — Аркестра, грайце!

Пасыпалася полька. Пералом у настроі наступіў і танцы ўзнавіліся. Лейтэнант, аднак, не паказаўся. Ён стаяў каля выйсьця на дварэ і пільнаваў Рамана. Але дармо — Дзічкоўская знайшла для Рамана іншае выйсьце, і яны яшчэ перад тым, як скончыліся танцы, пакінулі Галоўны корпус.

24.

Хмары засьцілі месяц. Але ён выкачваўся зь іх і плюскаў сваім сьвятлом над голымі садамі. Шчырбатай усьмешкай ён сьлізгаўся па ўсім чыста, ад чаго ўскраіна, па якой вяртаўся Раман дахаты, з сваімі садамі і агародчыкамі, хліпала нейкім трывожным мігценьнем. як у срыбнай, але цямлівай сетцы. Цені далёка сігалі праз вуліцы, запаленыя сьвятлом. Яны зрэдку перакрэсьлівалі Раманаў твар і асьвячалі яго, як маланкай.

Калі Раман Корзюк дайшоў да свае кватэры, з адчыненай брамкі выбег суседзкі сабака, сеў на ходніку і павоўчы завыў, уставіўшы на Рамана сваю мызу. Раней, падбягаючы да Рамана, ён вітаўся зь ім, як вітаюцца сабакі, але цяпер сядзеў воддаль і трывожыў сваім выцьцём вуліцу, трывожную і без таго ў гэты позьні час. Месяц быў ужо ззаду, за домам. Корзюк ступіў на ганак асьцярожна й няўпеўнена, быццам ён уваходзіў у чужую, незнаёмую хату.

Ужо ў сваім пакойчыку, праз задняе вакно, Раман зноў пабачыў у месячным сьвятле сабаку. Але цяпер ён ня выў, як на вуліцы, а толькі сядзеў і, здавалася, глядзеў у вакно, падобны болей на ваўчанё. Корзюку здалося, што ў сваім пакойчыку, як на талерцы, ён відзён з усіх бакоў. Упяршыню ён ня чуўся забясьпечаным ад напасьцяў. Каб мог, ён засланіў-бы вокны дзеругай, каб пацямнела і можна было лажыцца спаць. Але засланіць ня было чым, і Раман лёг, накрыўшыся коўдрай з галавой. Сабака пачаў драпаць сьцяну і скуголіць, быццам просячыся ў хату. Ды Кордзюку не хацелася ўжо падымацца з ложку, ён сагрэўся і засынаў. Ужо заснуў . . . Сьпіць. Сабака, здаецца, ўжо цяпер на ганку бразгаціць клямкай, адчыняючы дзьверы, і гыркае. Але нехта ласкава адганяе яго ад дзьвярэй, гладзіць і дае хлеба. Коўтнуўшы хлеб, сабака, аднак, пачынае гыркаць зноў. І тады яму добра даюць ботам пад рэбры. Сабака, яўкнуўшы ад болю, бяжыць у сваю брамку. І ўжо адтуль пачынае свой брэх зноў. Што-б гэта значыла? Пэўна, Кандраценя ідзе мяне вучыць ці зноў разказваць пра Цімошку . . . Але не . . . Цяпер я ўжо сплю і мой салодкі сон будзе трываць доўга-доўга. Ні сабака, ні Кандраценя не перарвуць яго. Так добра ў цёплым ложку пасьля дзённай зморы! Высплюся й вылежуся. Каб толькі даўжэй . . Сабакі ня чутно ўжо і месяць схаваўся. Патухлі й вокны. Іх замазала ноч, і ў хаце — як спаць.Цені ня трывожаць і ня шныраць па дарогах. Сады ахінуліся імглой і таксама сьцішыліся. Ім утульней і бясьпечней ад гэтага, як утульна мне пад коўдрай. Утульна, як пасьля вялікага шчасьця, што перамагло цябе і кінула ў нябыт . . .

Дзагу-дзагу . . . Дзаг-дзаг-дзаг! . . Дзагу-дзагу . . . Дзаг-дзаг-дзаг! — ходзіць ходарам клямка. Ды дзьверы не адчыняюцца. Моцныя! А от у вокнах шкло дрынкае трывожна: тук-тук-тук! тук-тук-тук! Нешта-ж ёсьць такое, калі брынчаць. Ды гэта нішто! Сон ёсьць сон. Сон смачна сьвішча ў носе, булькае ў горле, захліпаецца. Перарвецца на сэкунду, паслухае сябе самога і зноў за сваё . . .

Нешта-ж ткі ўсхадзілася гаспадыня . . . Во як бухнула ў перагародку! Яшчэ-б трохі, дык і ў жывот . . . Чым-бы гэта? Нагой? . .

Раман Корзюк пачуў галасы ў кухні. Скрозь шчыліны ў перагародцы адтуль калола сьвятло і даставала Рамана, як штыхамі. Гаспадыня прыглушаным голасам прасіла Рамана адчыніць дзьверы. Корзюк скокнуў з ложку, адкруціў на дзьвярох закрутку і нырнуў назад пад коўдру.

Як і ўчора, калі ён быў з Кандраценем, гаспадыня спынілася ў дзьвярох з лямпай у руках:

— Устаньце!

Накіравалася да другіх дзьвярэй, што на вуліцу, і адклала там заслон, якім заўсёды запіраўся Корзюк нанач. Няўгледна, як па камадзе, увайшлі людзі — двое з адных дзьвярэй і двое з кухні.

Пад стольлю ярка загарэлася лямпачка. Гаспадыня пасьпяшалася выйсьці.

— Адзявайцеся! Вы арыштаваныя!

Раману Корзюку не паказалі навет ордэру на арышт. Пільна назіралі за ім, калі ён надзяваўся. Потым загадалі яму сесьці за стол, відавочна, каб забясьпечыць сябе ад магчымых

# Алёіза Пашкевіч (Цётка)

**ЯК ЧАЛАВЕК І ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНЫ ДЗЕЯЧ (ДА 50-х УГОДКАЎ АД ДНЯ СЬМЕРЦІ)**

Далёка час,
Калі над родным краем
Гучаў твой голас і на буру зваў,
Ідуць гады, а мы не забываем
І слоў тваіх маланкавых, і спраў.
(Пятрусь Макаль, «Цётцы»)

5-га лютага г.г. скончылася 50 год ад дня сьмерці Алёізы Пашкевіч, а сьветлы вобраз гэтай вялікай беларускі не паблек, а наадварот, з штораз паўнейшай дакладнасьцяй адтвараецца й жыве ў памяці патомных.

У аднэй з віленскіх бібліятэк (цяпер Бібліятэка Акадэміі Навук Летувіскай ССР) захавалася біяграфія паэткі, напісаная ейным братам Вайцехам Пашкевічам. З яе ведама, што Цётка нарадзілася 3 ліпеня 1876 г. ў вёсцы Пешчына, Лідзкага павету, што ад 3 да 9 год будучая паэтка жыла ў фальварку Тэрсін у бабкі. Вайцех Пашкевіч піша: «Старая бабка была добрая, лагодная і, як на тыя часы, даволі інтэлігэнтная кабета, дык гадавала дзяцей старанна й добра. Беспасрэдна даглядала дзяцей старая нянька Ягася, якая выняньчыла ўсіх дзяцей у Пашкевічаў, але найбольш любіла й была найбольш прывязана да «Лізанькі» за яе лагоднае сэрца й добры характар».

У 1892 г. Алёізу разам з малодшым братам выправілі ў Вільню вучыцца. Тут яна канчае 7 клясаў прыватнай гімназіі Прозаравай ды атрымоўвае пасьведчаньне хатняй настаўніцы. У 1904 г., пасьля курсаў Лесгафта ў Пецярбургу, яна экстэрнам здае выдатна экзамены за поўны курс гімназіі й вяртаецца ў Вільню.

У Вільні Цётка арганізавала беларускія работніцкія гурткі. Адзін з яе сучаснікаў адзначае, што «зрок Цёткі з асаблівым натхненьнем акрэсьліваў і распазнаваў тых, што згодна з сумленьнем жадалі працаваць для свайго народу». Цётка першая распачала работу сярод беларускіх жанчын. Яна арганізавала жаночыя гурткі, праводзіла паседжаньні, будзіла ў жанчын нацыянальную сьведамасьць, падрыхтоўвала іх да рэвалюцыйнай барацьбы.

Як дэлегатка ад беларускіх жанчын, Алёіза Пашкевіч брала ўдзел у зьезьдзе жанчын, які адбыўся ў травені 1905 году ў Маскве. У сваіх гарачых прамовах на зьезьдзе яна напамінала пра існаваньне беларускага народу й яго долі, яна гаварыла аб цяжкім жыцьці беларускай жанчыны, аб яе забітасьці й непасільнай працы, ды аб неабходнасьці зьмены такога стану рэчаў.

Тады — ў 1905 годзе — Цётка працавала фэльчаркай у Новавялейскай лячэбніцы. Аб яе грамадзкай дзейнасьці ў тым часе даволі падрабязную справаздачу чытаем у актах абвінавачаньня Віленскай судовай палаты: «Алёіза Пашкевіч брала ўдзел у сходах (рэвалюцыйнага) таварыства. На мітынгах, што адбываліся ў лячэбніцы, яна гаварыла пабеларуску прамовы, у якіх заклікала да непаслухмянасьці ўладам, неплачэньня падаткаў і да барацьбы супраць ураду. Яшчэ летам 1905 году яна зьбірала на могілках служачых лячэбніцы й гаварыла прамовы, якімі падрыхтоўвала іх да рэвалюцыйнай дзейнасьці. Яна друкавала на беларускай мове «ганьбуючыя цара» праклямацыі й раздавала іх у лячэбніцы . . .» І далей: «не абмяжоўваючыся агітацыяй у сьценах лячэбніцы, яна езьдзіла з другімі асобамі па навакольных вёсках, гдзе падбухторвала сялян зваліць існуючы ў дзяржаве грамадзкі лад».

Перасьлед паліцыі змусіў Цётку выехаць загранiцу — у Львоў. Сярод асабістых дакумэнтаў паэткі знойдзена пасьведчаньне Львоўскага Унівэрсытэту, у якім гаворыцца: «Алёіза Пашкевіч, вольная слухачка аддзелу філязофіі, удзельнічала ў сэмінарах польскай літаратуры, а ў сучасны момант працуе над тэмай «Батлейкі на Беларусі й іх сувязь з польскай драматычнай літаратурай». Адначасна Цётка плянуе выдаваць папулярныя кніжкі для свайго народу. 28 чэрвеня 1906 г. яна пісала да прафэсара Б. Эпімах-Шыпілы:

«Дужа паважаны прафэсар! Выбачайце, што незнаёмая й пішу да Вас. Я Пашкевічанка . . . калісь прабавала вершы пісаць і іх Вам чыталі. Во то-ж цяпер жыву у Львове, з украінцамі, русінамі і ўніятамі заводжу знаёмства. Шмат нам спрыяюць, памогуць у чом сіла. Цяпер покі што будуць друкаваць па-беларуску. Калі маеце што, то прышліце. Я хачу даведацца ад Вас, што чутно з букваром, ці ўжо гатоў, ці ў час будзе фанэтыка наша беларуская. Гэта вельмі важна, бо буду цяпер выдаваць папулярныя рэчы для народу, ды ня ведаю, як чаго трымацца . . .

Бывайце здаровы, пане прафэсар, мо' напішаце колькі слоў? Адрас: Львоў Лыкстуская № 39. З паважаньнем, Пашкевічанка. 28 чэрвеня 1906 году.

Пане прафэсар, мо' будзеце ласкавы прыслаць мне народныя песьні Шэйна».

На жаль ажыцьцяўленьню гэтых плянаў перашкодзілі паэтцы сухоты, на якія яна захварэла, і ў 1908 г. выехала ў Закапанае лячыцца. З тугі да сваіх Цётка, рызыкуючы арыштам, некалькі разоў прыяжджала нелегальна ў Вільню й Пецярбург. У пачатку 1910 г. у Вільні Цётка актыўна дапамагае ведамаму актору Ігнату Буйніцкаму ў стварэньні беларускага тэатру. 19-га лютага ў Пецярбургу выступае з дэклямацыяй сваіх вершаў «Мае думкі», «Грайка» і «Родны край» Якуба Коласа, захапляючы слухачоў сваім драматычным майстэрствам. У Львове яна вучылася ў драматычнай школе й заўсёды прыдавала тэатру вельмі вялікае значэньне.

У аднэй карэспандэнцыі ў «Нашу Ніву» яна пісала: «Ідзе работа цяжкая, мазольная. Возьмем хаця-бы тыя вечарынкі й ігрышчы, што апошнімі днямі рабілі беларусы ў Вільні, Слуцку, Горадні, Пецярбургу. Гэта ня былі звычайныя гулянкі, гэта была сур'ёзная культурная праца. Гуляць адно для забавы, быццам матылёк на сонцы, можа толькі народ з вялікай культурай, бо ён мае ўжо арганізаваныя тэатры, аркестры, хоры, музыку».

У 1911 г. Цётка выйшла замуж за летувіса Кейрыса. Зьмена прозьвішча дала ёй магчымасьць легальна вярнуцца ў Беларусь. Тут яна, ня гледзячы на хваробу, піша апавяданьні («Асеньнія лісты», «Лішняя», «Зялёнка») і шмат артыкулаў у «Нашу Ніву», ды йшчэ арганізуе беларускія нелегальныя школы.

Яшчэ ў 1906 г. ў артыкуле «Як нам вучыцца» паэтка пісала: «Калі пачнуць у нас уводзіць новыя нацыянальныя народныя школы, трэба канешне, каб дзяцей у іх навучалі пабеларуску . . .» — і далей — « . . . Дзеля таго ўсе беларусы і ўсе, хто хоча даць народу праўдзівую навуку, павінны дамагацца для беларусаў беларускай нацыянальнай школы».

У тым-жа 1906 г. Цётка пад псэўданімам Тымчасовага выдала беларускую кніжачку лацініцай «Гасьцінец для малых дзяцей», а ў Пецярбургу выдавецкая супалка «Загляне сонца і ў наша ваконца» выпусьціла «Першае чытаньне для дзетак беларусаў», таксама складзенае Цёткай.

У 1914 г. наша паэтка пачала выдаваць часапіс для беларускай моладзі «Лучынка». У часапіс гэты яна старалася прыцягнуць як найбольш супрацоўнікаў. Дзеля гэтага вяла перапіску з Эпімах-Шыпілам, Канстанцыяй Буйлай ды пісала лісты да пецярбургскіх студэнтаў-беларусаў. Вось адзін з гэтых лістоў: «Дарагія браткі! Беларусы-студэнты!

Вам пашчасьлівілася: вы ўжо аж у ўнівэрсытэце вучыцеся. Але вашы браты, дзе каторыя мо' родныя вам, асталіся ў вёсцы, там яны працуюць ад сьвітаньня да зьмярканьня, а ім жа-ж таксама хочацца, як і вам шмат чаго ведаць, пазнаць. Ось для гэткіх то працаўнікоў на нашай роднай зямельцы цяпер выходзіць «Лучынка» (месячнік). Браткі студэнты! Ня маеце права атрасьці рук ад працы ў «Лучынцы», на вашым сумленьне будзе ляжаць найбольшая часьць сораму, калі «Лучынка» дрэнна будзе сьвяціць вашым братом і сёстрам у вёсцы беларускай, што для вас хлеб сеюць і жнуць.

Вы можа будзеце рагатаць, чытаючы маё казаньне. Сьмейцеся, за тое кажу шчырую праўду й веру, што знойдуцца такія між вамі, што будуць працаваць для «Лучынкі».

З пашанай да вас усіх, цісну рукі — Цётка, старожка запаленай «Лучынкі».

У перадавым артыкуле 3-й кніжкі «Лучынкі» пад загалоўкам «Шануйце роднае слова» Цётка пісала:

«Родная мова, быццам цэмэнт, зьвязвае людзей. Яна дае ім найлепшы спосаб разумець адзін аднаго, аднэй думкай жыць, аднэй долі шукаць. Хто адрокся мовы бацькоў сваіх, хто ўзьдзеў чужую апратку — той адышоў ад народу далёка-далёка . . .» — і далей — «На вас, моладзі, ляжыць вялікая павіннасьць разьвіваць далей родную мову, узбагачваць свой народ знаньнем і культурай».

Што й сама Цётка працавала вельмі шмат над распрацаваньнем беларускай літаратурнай мовы чытаем у ўспамінах (архіў Акадэміі Навук ЛССР) аднаго з сучасьнікаў Цёткі: «Цётка стварала літаратурную беларускую мову й часта запісвала ў свой бляхноцік цікавыя беларускія словы ад работнікаў».

У 1914 г. здароўе ейнае моцна пагоршылася й 23 сакавіка яна пісала да Эпімах-Шыпілы: «Каля 30-га гэтага месяца буду ў Пецярбургу: еду на месяц у Фінляндыю прылатаць крыху здароўе. Дрэннае самаадчуваньне не адбівае ахвоты даведацца пра беларусаў пецярбурскіх, пра сабраньні беларускія, не адымае жаданьне працаваць».

Пісьменьніца пехатою падарожнічае па Фінляндыі, Швэцыі, Нарвэгіі. Захаваліся лісты, якія яна пісала з дарогі да таго-ж праф. Эпімах-Шыпілы: «Я ўжо 70 км. адпаўзла ад Стакгольму, начую сёньня ў сяле Вангнгард у чыгуначным гатэлі . . .» — і далей — «Ураджаяў я яшчэ нідзе такіх ня бачыла, як у Швэцыі. Крыху ўжо знаёмімся зь людзьмі, вучымся іхняй мовы. З інтэлігэнцыяй усяды можна панямецку разгаварыцца». (7. VII. 1914).

«Ужо прайшлі 195 км. пехатою. Вельмі цікавая старонка. Учора начавала ў Норкёрынгу, фабрычны горад. Сёньня начую ў Норшалье пры самым С'ётэ канале . . . (14. VII. 1914). — «Усяго найлепшага пасылаю з Г'ётэборга. У дарозе вельмі дрэнна вядзецца: маю бабу-таварку муж адзывае да хаты, замаркоціўся, каб яго маланка. Мусіць адна пайду па Нарвэгіі. Як згіну — не шкадуйце».

Вярнуўшыся з дарогі Цётка надрукавала досыць абшырныя нарысы пад загалоўкам «Успаміны з паездкі ў Фінляндыю». У ім аўтарка прысьвячае шмат увагі гісторыі Фінляндцаў, бо доля іх у мінулым ідэнтычная з нашай. «Фінляндыя гэтаксама ляжала паміж двумя сільнымі суседзямі, як і наша Беларусь. Швэцыя раней стала панам у Фінляндыі, фінская шляхта паволі паперамяняла свае прозьвішчы на манер швэдзкіх і ашвэдзілася. Мовы сваей зраклася . . .»

Ідэйную-ж фінскую інтэлігэнцыю, што выйшла з сялянства й не забыла слаўнага мінулага свайго народу ды паклала ўсе сілы для адбудовы незалежнасьці Фінляндыі, Цётка ставіць у прыклад усім беларусам, асабліва-ж беларускай інтэлігэнцыі.

Канец клапатлівага й творчага жыцьця Цёткі прышоў у часе Першай Сусьветнай вайны. Прыйшоў раптоўна, нечакана. Зімой 1916-га году на бацькаўшчыне яе лютавала эпідэмія тыфу. Ахвярай яе паў бацька паэткі. Яна сама пачала езьдзіць па вёсках і памагаць церпячым. Ратуючы другіх, заразілася сама і у ноч з 4-га на 5-га лютага 1916 году памерла. Пахавана ў роднай вёсцы Стары Двор.

**Валянтына Пашкевіч**



---

нечаканасьцяў з боку арыштаванага. Двое сталі перад Раманам і ня зводзілі з яго вачэй, а двое другіх пачалі рабіць вобыск.

Перавярнулі ўсё дном дагары.

— Аддайце зброю!

—Вам ня трэба было--б шукаць яе, каб яна была ў мяне.

— Вы хочаце сказаць, што яна заявіла-б сама аб сабе?

—Патэе-ж яна зброя.

—Гм-м . . . Дасьціпна.

—Вы самі напрасіліся на такі досьціп.

Спрабавалі масьніцы, вадзілі далонямі па шпалерах. Самі адчынялі чамаданы й поркаліся ў іх. Узрылі пасьцель і нечым пракалолі матрас.

— Пакажыце вашыя кнігі!

— Яны ўсе тут.

Перабралі й парагарталі даводнай. Тыя зь іх, у якіх былі якія-колечы надпісы, заўвагі, падкрэсьленьні, закладкі адкладвалі на бок, а іншыя ставілі на месца. Кнігі на беларускай мове забіралі, не гартаючы, усе, колькі было. Да гэтай катыгорыі належалі й кнігі на польскай мове. Канспэкты й лісты зьвязвалі асобна. Склалі ў мяшочак фатаграфіі, што былі прыкееныя на паперу перад зэдлікам на сьцяне. Прыглядаліся да партрэту Валі, які яна колькі часу таму падаравала Раману й паставіла яго ў зграбнай рамачцы на начным століку. Знайшлі й вузялок-перадачу для Валі, якога ня прынялі ўчора ў Рамана, бо ня было прыёму і які цяпер ляжаў у шафцы.

Раман Корзюк абыякава глядзеў на ўсё гэта і хацеў, каб яны канчалі хутчэй і вялі яго. Але людзі з НКВД не сьпяшаліся, яны толькі зрэдку пазіралі на гадзіньнікі, абменьваючыся кароткімі й зразумелымі толькі для іх позіркамі. Калі было ўжо ўсё гатова, упакавана й пастаравана, пачалі пісаць пратакол. Падпісалі яго Раман і гаспадыня, якую яны паклікалі. Гаспадыня прынясла Раману бялізну, цукру й маленькі слоечак масла. Сказала, каб ён узяў з сабой і пасьцель

— Яму ўсё гэта не патрэбна. Ён хутка вернецца.

— Кабжа- ж . . .

— Пайшлі!

На вуліцы кінуўся сабака з брамкі, але адразу-ж адбегся і, як перад гэтым, сеўшы, завыў.

Месяц не паказаўся. Яго перамаглі хмары, і вуліцы — глухія, з садамі й гародкамі — ніклі ў перадранішняй імгле.

Давёўшы да Брэсцкага маста, Рамана Карзюка пасадзілі ў машыну, што чакала ў завулку. Відавочна, баяліся нарабіць шораху, дык і паставілі тут, не даяжджаючы. Сабака ня гэтак усхадзіўся-б!

У машыне людзі з НКВД сядзелі поруч Рамана, заціснуўшы яго ў сярэдзіне. Ехалі ціха, негаворачы. Каб хто хаця адным словам адгукнуўся. Гэтую маўчанку Раман ледзьве перамагаў. Каб ён не баяўся паказацца наіўным, ён сам першым загавар--рыў-бы да сваіх «суседзяў» і яму было-б ня гэтак крыкра, як цяпер, але загаварыць Корзюк ня мог, і блізіня, якую Раман адчуваў, седзячы паміж сваімі «целахраніцелямі», мучыла яго, злавала і выдавалася надта абразьлівай. Толькі нейкая звышнатуральная сіла паўстрымоўвала яго ад таго, каб ня рынуцца на іх. У вадзін мамэнт — варта яму было толькі, наспрунжыніўшыся, тоўхнуць сваімі моцнымі і доўгімі нагамі ў вадзін бок і ў другі, як уся ягонная кампанія поруч — Раман вычуваў у сабе такую сілу — апынулася-б вонках машыны. Але Корзюк ехаў цяпер *туды*, і ўсьведамленьне гэтага стрымлівала яго натуру. Той дзень, аб якім гаварыў яму ўчора Кандраценя, настаў і ці варта цяпер адхіляць яго такім спосабам. Тым больш, што такога дня Корзюк чакаў сам, ішоў да яго, і ў гэтым фінале сваім мусіць-жа ён, нарэшце, сьцішыцца. За плячыма, здавалася, ехала Карзюкава мінулае і быццам праводзіла яго ў новаю дарогу.

Па Чыгуначным мосьце якраз у гэтым часе праходзіў замежны цягнік на Стоўбцы. Вокнамі цягнік сьвяціўся ў цемры, нясучы сваё калыхлівае сьвятло ў нейкі зваблівы, іншы сьвет, да якога ён, здавалася, бег здалёку, з таго боку начы. Корзюк меў магчымасьць праводзіць вачыма цягнік аж да таго часу, пакуль чырвоны ліхтар, матляючыся ззаду апошняга вагону, ня згас у вільготнай і зябкай каламуці.

З чыгуначным мастом пачыналася Савецкая. Адно вакно на кватэры ў Цыпіных ужо сігналізавала сьвятлом, што там нехта прачнуўся — хутчэй за ўсё Бася: сьвятло такое трапяткое й чырвонае, як яна сама. А вось праплываe ў паўзмроку цёмны яшчэ манастыр — сыпяць. Запраўды, як пасьля Кастрычніка! І чаму-б ім ня спаць? Ніхто ня сьпіць мацней за жанчын.

Усё ўжо ззаду: і Цыпіна, і манастыр, і інстытут, і Дом ураду зь сьвяточным партрэтам Сталіна.

Перад варотамі на Урыцкага машына доўга чакала, гурчэла, быццам скардзячыся што яе ня пушчаюць. Нарэшце, адчыніліся вароты — тыя, на чатыры крокі ўшыркі — і аўта рванулася на двор. Пад'ехала да нейкіх дзьвярэй, спынілася.

У Камэндатуру Корзюка ўвялі з двара. Адразу-ж, з парогу, Корзюк нырнуў у скляпеньне, асьветленае вялікімі лямпачкамі. Там ішла «апрацоўка» арыштаваных: іхную адзежу распасьцілалі на стале, абмацвалі кажнае шво,абразалі гузікі і спражкі, выцягвалі з бацінак шнуркі, забіралі паясы, гальштукі, грошы. А ў вадным кутку — зусім голыя некалькі чалавек прысядалі з распасьцёртымі рукамі і, прысеўшы, з сэкунду заставаліся ў такой пікантнай позе, пакуль тыя, што аглядалі іх, не казалі ім узьняцца.

Корзюк баяўся, што яму загадаюць рабіць тое-ж самае, але, нашчасьце, гэтай атлетыкай яму не прыйшлося займацца: значыць, яго ня лічаць такім небясьпечным арыштантам, як тых, у кутку.

Яму далі квітанцыю на асабістыя рэчы, якіх нельга браць з сабою ў камэру, і павялі. Корзюк ужо мог разгледзець пасярэдзіне двара круглы будынак з чырвонаармейцам каля яго. Пасьля, як увайшлі ў гэты будынак, дзьверы ўсьлед ім зачыніліся глуха і цяжка, як назаўсёды. Падняліся на другі паверх. У цэнтры акружыны, якая ўяўляла сабою падлогу таго паверху, стаяў чалавек і круціў, як здалося Корзюку, нейкае кола. Але гэта было ня кола, а прост рычагі, пры дапамозе якіх дзьверы камэраў у выпадку патрэбы адчыняліся й зачыняліся. Не пасьпеў Корзюк апынуцца перад дзьвярыма з нумарам 27, як яны адчыніліся, паказаўшы Раману тое, што называецца камэрай-адзіночкай. Корзюк у нерашучасьці спыніўся: ня камэра, а труна, вузкая ад дзьвярэй і трохі шырэйшая ля вакна. Ззаду Корзюка лягенька папхнулі. Толькі перанёс ён свае ногі цераз парог, як дзьверы зачыніліся за ім з такім гулам, быццам хвалі шторму ўдарылі ў каюту з усёй сілай, схлынуўшы назад у сваім адступленьні.

*(Далей будзе)*

# Фэстываль злачынцаў

(Заканчэньне з 6-ай бач.)

— Нічога ў мяне тут няма, — апалым голасам прамовіў Леанід.

— А што, кватэрка собская імеецца?

— Няма яшчэ. У інтэрнаце жыву.

— Ну, вот будзеце імець... Будзеце імець...»

І няпрошаныя госьці з НКВД разам з Леанідам зьніклі за дзьвярыма».

У гэтай самай аповесьці ёсьць і другі падобны малюнак. Эва, гераіня твору, расказваючы Леаніду Высоцкаму пра сваю біяграфію, кажа, як пасьля вызваленьня Крыму яна чакала з маткай на прыезд айчыма:

«Аднаго разу ноччу пачуўся, стук у дзьверы. Я прачнуўлася, калі маці ўскочыла з пасьцелі... Увайшоў чалавек і загадаў уключыць сьвятло. Не прасіў, а загадаў. Голас быў незнаёмы. Пры сьвятле я ўбачыла, што гэта вайсковы, але не айчым. На пагонах чатыры зоркі — помню, што адразу палічыла іх. Маці стаіць насупраць і дрыготкімі рукамі зашпільвае свой халацік, а ён маўчыць. Ля дзьвярэй стаіць яшчэ адзін вайсковы, без ніякіх зорак, і таксама маўчыць.

Потым той, што з зоркамі, пытае: „Усе тут у наліччы? — Даецца паўтары гадзіны! — заяўляе суха і катэгарычна. — У дзьве нуль-нуль прыйдзе машына. Паедзеце!" — „Куды?" — разгублена пытае маці. „Там скажуць!"»

І сказалі. Праз паўтары гадзіны іх пагрузілі ў таварнякі — па сорак сямей у кожны — і павязьлі ў няведамым напрамку...»

Падобных малюнкаў у савецкай літаратуры можна знайсьці шмат. А колькі такіх сцэнаў адбывалася амаль кожны дзень у сотнях і тысячах беларускіх хат! Ня гледзячы аднак на гэта, ува ўсіх кінатэатрах Беларусі паказваюць больш чымся дваццаць мастацкіх і хранікальна-дакумэнтальных фільмаў прысьвечаных «гераізму» чэкістых. Замест таго, каб павышукваць адказных за зьдзек і злачынствы гэтак званага пэрыяду «культу асобы» і аддаць пад суд — кампартыя высоўвае іх у героі, выхваляе ў фільмах, ганарыцца імі.

Я ня маю магчымасьці пазнаёміцца зь ніводным фільмам пра чэкістых. Але я ўпэўнены, што сярод тых фільмаў, якія паказваюць, няма хранікальна-дакумантальнага фільму пра «герояў-энкавэдыстых» Бярэзьвіцкае турмы, што каля Глыбокага. А варта было-б паказаць народу «гераізм» малойчыкаў з НКВД, якія ад страху перад немцамі не пасьпелі нават загладзіць сьляды свайго злачынства....

Бярэзьвічы — адна з прыгажэйшых мясьцінаў Беларусі. Яшчэ да вайны яны былі злучаныя даўгой, рэдка забудаванай вуліцай-дарогай з суседнім горадам Глыбокае. Там быў каталіцкі касьцёл, былы манастыр, некалькі забудоваў. У часы польскай акупацыі ў Бярэзьвічах мясьціўся аддзел Польскага Прыгранічнга Корпусу і сем'і афіцэраў ды ўрадоўцаў. Звычайна там было ціха і спакойна. Толькі 29-га чэрвеня, у дзень сьвятых Пятра й Паўла, Бярэзьвічы ажывалі, станавілася людна й весела, народ цягнуўся з усіх ваколіцаў, хто каб памаліцца, а хто каб пабачыцца з сваякамі ці знаёмымі, пагаварыць, павесяліцца.

1939-ты год. Верасень. Чырвоная армія «вызваляе» Заходнюю Беларусь. Былы Бярэзьвіцкі манастыр Саветы ператварающь у турму. Там, дзе раней былі кельлі — цяпер камэры для вязьняў; у падвалах, дзе калісьці манашкі трымалі запасы харчоў — карцэры; у капліцы, дзе некалі маліліся — месца для допытаў...

Колькі нявінных людзей прайшло праз Бярэзьвіцкую турму — ведаюць толькі органы сваецкай дзяржаўнай бясьпекі. Да пачатку нямецка-савецкай вайны іх там пабывалі тысячы. Гішпанскі рэспубліканскі генэрал Эль Кампэнсіно, якому ўдалося вызвацца пасьля вайны з Савецкага Саюзу, пісаў у сваёй кнізе-ўспамінах, што пасьля прыходу Саветаў у 1944-ым годзе каля Глыбокага быў заснаваны канцлягер, у якім знаходзілася некалькі дзесяткаў тысяч зьняволеных. Хоць Эль Кампэнсіно не назваў Бярэзьвічаў, аднак бясспрэчна ён меў на ўвазе Бярэзьвіцкую турму, якую МВД ператварыла ў канцэнтрацыйны лягер.

Але вернемся да 1941-га году. Другая палова чэрвеня. Эскадрыльлі нямецкіх самалётаў бамбяць беларускія гарады, у тым ліку й Глыбокае. Крывавая савецка-нямецкая вайна, якая каштавала нашаму народу столькі ахвяраў, у поўным разгары. Ужо ў першых днях ваенных дзеяньняў на дарогах зьяўляюцца калёны ўцекачоў. Гэта прысланая ў заходнюю Беларусь сталінская адміністрацыя ўцякае ў паніцы на ўсход. У апошні мамэнт з навакольных вёсак зьнікаюць некаторыя сяляне. Гэта былыя дзеячы «Грамады» або сябры КПЗБ. Амаль усе яны прайшлі праз польскія астрогі, перажылі цяжкія зьдзекі й катаваньні. Цяпер іх вышукоўвае НКВД, арыштоўвае й вывозіць у няведамым кірунку. Потым іхнія трупы былі знойдзеныя ў невялічкім лесе пры дарозе з Глыбокага на Лужкі. Пры пасьпешных уцёках арыштаваныя былі для чэкістых адно лішнім балястам і каб яго пазбыцца — яны іх пастралялі з аўтаматаў.

Пасьля першых дзесяці дзён вайны ў Глыбокім раптам наступіла дзіўнае зацішша. Савецкіх уладаў ужо ня было, а немцы ня прыходзілі. Гэтае нязвычайнае палажэньне трывала некалькі дзён. У міжчасе, па горадзе й ваколіцах, маланкай праляцела чутка, што зь Бярэзьвіцкай турмы разносіўся страшэнны пах трупаў. Ніхто аднак не наважыўся падыйсьці да былога манастыра. Усе баяліся, што ў кожны мамэнт могуць зьявіцца чэкістыя. І толькі з прыбыцьцём немцаў усё стала ясна...

Мне тады было 15 год. Памятаю, была нядзеля. Гарачы ліпнёвы дзень. Народ сьпяшаўся ў Бярэзьвічы. Пайшоў і я зь сябрамі. Праходзім праз шырока адкрытую жалезную браму. Перад намі адкрываецца знаёмы нам вялікі двор, засланы рознымі паперкамі. Падымаем адну, другую, уважна разглядаем. Бачым — гэта абвінаваўчыя акты, пэрсанальныя дадзеныя пра вязьняў, доўгія сьпісы прозьвішчаў, маса фотаздымкаў у профіль і анфас, а на кожным фото — нумар зьняволенага. Відаць перад уцёкамі энкавэдыстыя хацелі спаліць усе паперы, склалі іх у кучу, але ня ўсьпелі. Потым вецер паразносіў іх па ўсім двары.

Ідзём далей. Бачым у самым канцы двара, на поўдзень ад манастыра-турмы сабраўся вялікі натоўп людзей. З кожным крокам мацнее той страшэнны пах, пра які нядаўна хадзілі пагалоскі ў народзе. Праціскаемся празь людзкую сьцяну. Глядзім — перад намі вялічэзная яма, а ў ёй труп ля трупа ў некалькі радоў. Я пачаў лічыць. Далічыў да 47 і больш ня мог, бо да дна было яшчэ далёка і шмат трупаў ляжала над нізом. Некалькі радоў ужо нехапала. Той, хто знаходзіў свайго роднага, забіраў яго, каб пахаваць пахрысьціянску на могільніку. У кожнага вязьня ў патыліцы відаць быў сьлед ад стрэлу зь пісталета. На шыях сьляды таксама. Гэта ад вяровак, якімі цягалі забітых у падвалах вязьняў у яму. У некаторых трупаў вяроўкі так і засталіся на шыі...

Жанчыны, што стаялі над ямай, плакалі. Мужчыны перашэптваліся між сабою, камэнтавалі, абмяркоўвалі. Чуў я шмат дрэннага пра энкавэдыстых, але ніколі ня бачыў у людзей такога абурэньня і такой нянавісьці да іх, як у той мамэнт, калі я стаяў над братняй магілай сотняў нявінных людзей закатаваных НКВД.

Можна было-б расказваць яшчэ шмат пра тое, што я бачыў і чуў у той незабыўны дзень. Але думаю, што і гэтага хопіць, каб паказаць на цынізм тых, хто сёньня зьдзекуецца над народам і арганізуе кінафэстывалі пра зьненавіджаных чэкістых.

*В. Садковіч*

*Фэльетон*

# Думкі ў космасе й на зямлі

Ня дзівецеся, паважаныя чытачы. У нашым веку ўсё магчымае. Я ў палёце. На месяц! Ха... Хто калі думаў... Якая прастора, якое бязьмежжа... Які цудоўны сусьвет! І гэтая цішыня...

Вось толькі што, на паважнай адлегласьці, праляцелі два трупы — адзін амэрыканскі, другі савецкі, — спадарожнікі Зямлі, якія ўжо свае адслужылі. А я ўсё ляту, ляту, ляту... Зямля робіцца штораз меншай, а Месяц — таўсьцее. У галаве толькі адна думка: якбы гэта наймякчэй прысесьці, прызямліцца, выбачце — прымесячыцца. І бачу, што ўжо й думаць няма калі. Заплюшчываю вочы. (Гэта, як часамі у сьне, калі падаеш з вышыні і ў апошні монаешся, або робіш мяккую пасадку, — мант заплюшчваеш вочы, і або прачыпрыгадваеце?)

Дык вось апошнія сэкунды з заплюшчанымі вачыма. Раптам — шлёп! Я на Месяцы. Як мне здаецца — жывы. Паволі адкрываю вочы. Божа, якое тут ўсё месячнае! На гарызоньце вялізарным балёнам напышылася ганарлівая Зямля. Я паволі паварочваю галаву ў іншы бок. І што вы скажаце!? На адлегласьці колькіх мэтраў сядзіць нешта! Ні то вялікая чарапаха, ні то нейкі перадгістарычны інсэкт. Бачу нейкія знаёмыя ініцыялы, напісаныя словы, колеры. А гэтае «нешта» із зласьліва-гіранічнай усьмешкай сычыць: «Ага! Папаўся! Рэакцыянэр, нацыяналісты, здраднік, слуга капіталізму!» І далей: «Ад імя Савецкага Саюзу, я цябе...» Думаю: што ён мяне?.. Бадай-цябе-бадай, дасюль-жа гэта нэўтральна-месячная тэрыторыя. Раптам ягоны арганізм заскрыпеў, як непадмазаныя вароты калгаснага цялятніка... і змоўк. Вось, думаю, тваёй песенцы канец, а я яшчэ жыву.

Я яшчэ паласаваў свае вока месячнымі малюнкамі, а пасьля сьцьвердзіў: Зямля — прыгажэйшая! А калі прыгадаў, што там-жа на Зямлі засталіся мае мілыя калегі і, праўда, ледзь не забыўся — мая-ж жонка таксама там, дык ведаеце, на маё сэрца й душу прымесячылася такая люнатычная туга, але такая туга й смутак, што хоць ты плач. «Але! — думаю, — гэта не да твару касманаўту-аднаасобніку», — і я пастанавіў рэпатрыявацца, праўда, у маім маштабе — рэ-земляваццa. Падумаў, узяў і паляцеў.

Ляту на Зямлю. Цяпер з кожнай хвілінай Месяц худзее, а Зямля сыцее. На зямной кулі можна ўжо адрозьніць чырвоную пляму Савецкага Саюзу. Штораз бліжэй... Прабую манэўраваць крыху ўбок, бо, прызацца, з натуры люблю больш мяккія пастэлявыя фарбы. Прабую!.. А цёмная чырвань штораз бліжэй... Заплюшчваю вочы і крычу на ўвесь Космас: «Ратуйце!»

І раптам нехта штурхае ў плячо. Нейкі знаёмы голас: «Ты што, аб'еўся вечарам, што ўвесь час кідаешся на ложку, як быццам-бы ўсе праблемы сьвету ляглі на твае плечы!» Адкрываю вочы і дзіўлюся, ці я сапраўды прызямліўся. Для пэўнасьці запальваю сьвятло. Сапраўды. Нават мой цюцька Бобік і сучэнцыя Ведзьма падыходзяць і, радасна размахваючы хвастамі, быццам вітаюць мяне з далёкага падарожжа.

Гэта, Дарагія чытачы, была мая фантастычная ноч. А кожная раніца, як ведама, вяртае чалавека да рэчаіснасьці. Я падумаў, што мой месячны палёт адбыўся пад уплывам усяго прачытанага аб розных палётах, экспэрымэнтах, удалых, няўдалых, задуманых, заплянаваных.

Пры сьнеданьні чытаю адну з маіх сталых газэтаў — менскую «Зьвязду». Бачу: штосьці знаёмае, перажытае. А... — гэта пра палёт станцыі «Месяц-9». «На пытаньні адказваюць вучоныя» — чытаю загаловак. Гэта прэсавая канфэрэнцыя ў Доме Вучоных. Пытаньні — адказы, пытаньні — адказы. Знаёмлюся бліжэй, бо-ж і я... ледзь не экспэрт пасьля перажытага ноччу. Чытаю пытаньне: «Ці можна вырошчваць на Месяцы якія-небудзь сельска-гаспадарчыя прадукты? Якія цяпліцы са штучнай атмасфэрай запатрабуюцца для гэтага і ці можна выкарыстаць грунт Месяца як поле?» (Хрушчоў напэўна папытаўся-б і пра магчымасьці вырошчваньня кукурузы). Вучоны, акадэмік Келдыш адказаў: «Я думаю, што пры адпаведных прыстасаваньнях — можна».

Я, Паважаныя Чытачы, ня вучоны і тым больш ня Келдыш. А таму, магчыма. і... можна. Толькі пры маім палёце зь Месяца на Зямлю, перад тым, як закрычаў «Ратуйце», перад маімі вачыма мільганулі й прасторы Беларусі. Як цяпер бачу: яшчэ цэлыя абшары несушаных балотаў. Вось, думаю, дзе маглі-б быць палі. Ня то, што на Месяцы! І на колькі ўсё таньней абыйшлося-б. У іншых мясцовасьцях бачу: быццам-бы і палі, але пазарасталі й пазабалочваліся. Ну. думаю, каб сюды крыху матарыяльных сродкаў і здаровае ініцыятывы — былі-б ізноў палі-палямі, абыйшлося-б і бязь месячных сенажацяў. Бачу некаторыя дарогі, і адразу думаю: на іх можна рабіць мякчэйшую пасадку, чымся на Месяцы!.. Такія яны мяккія...

Вось некалькі думак, якія прыйшлі мне ў галаву пасьля начнога «падарожжа» і калі я прачытаў адказы вучоных на прэсавай канфэрэнцыі ў Менску ў сувязі зь мяккай пасадкай станцыі «Месяц-9».

**А. Галубіцкі**

## ПОШУКІ

**Юрага В. Алёхну, які ў свой час жыў у Нямеччыне ў горадзе Ляндсгут, шукае ягоны суродзіч Нікіфар Акуліч. Пісаць на адрас:**

Nikifor Akulitsch,
Landshut, Kirchenstr. 18
Deutschland

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

# Вечнай памяці

5 лістапада 1965 году памёр адзін з найактывнейшых сяброў беларускай парыскай калёніі, Вечнай Памяці Язэп Касак — арыгінальны, цікавы, вартасны й дарагі сябра першай у Францыі, каб не сказаць у Эўропе, беларускай работніцкай арганізацыі «Хаўрус».

Адзін беларускі лекар зь Вільні, які гасьціў калісьці ў Парыжы, назваў Касака «работнікам-арыстакратам». Уражаньне такое Я. Касак рабіў на кожнага, хто-б зь ім не сустракаўся. Заўсёды элегантны вонкава, свабодны, тактоўны,



шматбаковы ў размове, рабіў ён ўражаньне чалавека, калі ня з высокай, то прынамся з добрай сярэдняй асьветай.

У сапраўднасьці-ж паходзіў Нябожчык з найбяднейшай беларускай сям'і. У ніякай школе ніколі ня быў. Чытаць вучыўся спачатку ў сям'і з кантычкі папольску, а пасьля з гэтай сваёй «граматай» саматужна авалодаў шасьцю мовамі, чатырма зь якіх ён гаварыў дасканала (беларускай, летувіскай, польскай і расейскай) і зусім добра — французскай і нямецкай.

Жыцьцёвы шлях Нябожчыка быў нялёгкі. 13-цігадовым хлапчуком пайшоў парабкаваць, спачатку па заможных летувіскіх сялянах, потым нямецкіх. Вярнуўся ў родную вёску Лынтуны на Сьвяньцяншчыне ўжо 22-23-ох гадовым дзяцюком.

Уцякаючы ад бяды, прыбыў у Францыю, дзе застаўся да апошніх дзён свайго жыцьця. Працаваў фабрычным работнікам.

Вызначаўся Нябожчык дзіва вартымі ўсебаковымі прыроднымі здольнасьцямі. Здавалася, нічога ня існуе, што-б Язэп ня мог зрабіць. Для беларускай калёніі ён быў і шаўцом і цырульнікам, гадзіньнікавым майстрам, папраўнікам радыёвых апаратаў, тэлевізараў, пішучых машынак. Калі яму траплялася ў рукі нейкай нябачаная яшчэ «штука» і яму ставілі пытаньне – а як з гэтым? — Язэп, пакруціўшы яе, абгледзеўшы, адказваў: рабілі-ж гэта людзі, дык чаму-ж ня даць рады мне. І ён даваў рады.

У грамадзка арганізацыйным жыцьці Нябожчык быў узорам ідэйнага і пасьлядоўнага патрыёта-незалежніка, матарыяльна заўсёды глыбока ахвярнага. Ён заўсёды аддаваў для «Хаўрусу» амаль усе свае ашчаднасьці, часамі нават поўную месячную заработную плату.

У кампаніі заўсёды вясёлы, прыемна жартаўлівы. Жартамі ён нат часамі праводзіў самыя сур'ёзныя рэчы. Памятаю, аднойчы прыбегла да яго на кватэру маладая дзяўчына Галенка з плачам і скаргай, што яе «абакраў Блюм» (тагачасны прэм'ер французскага ўраду). (Беларускія дзяўчаты ў Францыі ў той час усе свае ашчаднасьці вылічвалі ў гэктарах зямлі для свайго пасагу. Грошы звычайна складалі ў французскіх банках, радзей у польскай ашчаднай касе пры польскім кансуляце.)

І вось раптам першая дэвалюацыя Блюмам франка (пазьней былі яшчэ тры). У Язэпа на хвіліну твар азморшчыўся, але хутка ён усьміхнуўся, кажучы: «А каб яго качкі (такая была яго лаянка) — гэтага злодзея! Бяжы, сястрыца, забірай рэшту, бо будзе яшчэ горш. Нясі сюды, зробім свой банк.»

І Язэп запраўды зарганізаваў свой «банк», уратаваўшы нялёгка запрацаваныя грошы ня толькі Галенцы, але й іншым дзяўчатам і хлопцам.

Іншы раз давялося быць сьветкам і Язэпавай «банкавай апэрацыі» — пры ўплачваньні ўкладаў. «Банк» гэты выглядаў так: у старым скураным партфэлі было з дзесятак мяшэчкаў залатой ды прадаўгаватых канвэртаў папяровай замежнай валюты. Дзяўчатам і хлопцам, якія хутка меліся ад'язджаць дадому ў Заходнюю Беларусь пад Польшчай раілася купляць, апрача золата, валюту папяровымі далярамі. Іншым — швэдзкімі кронамі ці швайцарскімі франкамі, бо, казаў Язэп, «гэтыя ў вайну ня ўвяжуцца, а вайна-ж будзе»...

Колькі цікавых выпадкаў хацелася-б расказаць пра нябожчыка, пра ягоныя намеры, спрэчкі на палітычныя тэмы і асабліва дасьціпныя спрэчкі з тымі, што «не прызнавалі Беларусь»! Але з гэтага выйшла-б цэлая манаграфія, манаграфія, бязумоўна, цікавая і арганізацыйна дыдактычная.

Беларуская калёнія ў Парыжы разьвіталася зь Вечнай Памяці Язэпам 9-га лістапада 1965 году зь вялікім смуткам і жалем.

**М. А.**







БАЦЬКАЎШЧЫНА

Беларуская газэта палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**